# КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА №23 (233) 11 – 17 чэрвеня 1996 г. КОШТ 2500 РУБЛЁЎ


КУЛЬТУРА
ТЭРЫТОРЫЯ ЛЮБОВІ
КУЛЬТУРА
ДЗЯРЖАЎНАСЦЬ ПАЧЫНАЕЦЦА З КУЛЬТУРЫ

Калі Вы хочаце ведаць пра падзеі ў культурным жыцці Беларусі — падпішыцеся на "Культуру".

Інфармацыя пра выстаўкі, фестывалі, канцэрты, тэатральныя і кінарэцэнзіі, гутаркі з цікавымі і дасведчанымі людзьмі, гісторыя і літаратура — гэта ўсё Вы знойдзеце на нашых старонках. Да таго ж штомесяц выходзіць літаратурна-філасофскі дадатак "ЗНО".

Апошні дзень, калі яшчэ можна падпісацца на нашае выданне, — ***15 чэрвеня***. Падпіска прымаецца без абмежаванняў усімі аддзяленнямі сувязі.

Кошт падпіскі: на адзін месяц — 12 тысяч рублёў; на трэці квартал — 36 тысяч рублёў; на другое паўгоддзе — 72 тысячы рублёў.

Папісны індэкс газеты "Культура" — 63875.

***Выбіраючы нашу газету, Вы аддаяце свой голас:***

— за нацыянальнае адраджэнне Беларусі;

— за родную мову;

— за зберажэнне і развіццё культурных традыцый беларускага народа;

— за больш важкі клопат дзяржавы ў вырашэнні матэрыяльна-эканамічных праблем культуры.




КУЛЬТУРА
VIVAT ACADEMIA! VIVANT PROFESSORES!


ЗНО
ЛІТАРАТУРНА-ФІЛАСОФСКІ ДАДАТАК
ДЗЕ ЖЫВЕ АЎТАР?


КУЛЬТУРА
СУЧАСНЫ МАСТАК: ПРАРОК альбо БЛАЗЕН?


КУЛЬТУРА
ЁН БЫЎ, ЁСЦЬ І БУДЗЕ!


КУЛЬТУРА
ВЯРТАННЕ ГЕРОЯ


КУЛЬТУРА
Чорная Быль Беларусі


КУЛЬТУРА
ФОТАФАКТ З БІЯГРАФІІ КРАІНЫ

Ф. СП-1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ** на газету **63875** (індэкс выдання)

КУЛЬТУРА — Колькасць камплектаў

на 199 . год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|

Куды ________ (паштовы індэкс) ________ (адрас)

Каму ________ (прозвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА**

ПВ | месца | літар — на газету **63875** (індэкс выдання)

КУЛЬТУРА

Кошт: падпіскі ____ руб. ____ кап; перааддрасоўкі ____ руб. ____ кап — Колькасць камплектаў

на 1994 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|

Куды ________ (паштовы індэкс) ________ (адрас)

Каму ________ (прозвішча, ініцыялы)

НАТАТНІК ТЫДНЯ

# ЦІ ВЫРАТУЕ ІНТЭГРАЦЫЯ?

Чарговым крокам у пашырэнні інтэграцыйных працэсаў паміж Беларуссю ды іншымі дзяржавамі былога СССР стаўся Першы кангрэс дзеячаў культуры краін СНД, які адбыўся ў Мінску 30 траўня — 1 чэрвеня.

У адрознасць ад шырока разрэкламаванага кінафестывалю славянскіх і праваслаўных народаў "Залаты віцязь", гэтая значная для нашай культуры падзея праходзіла амаль што "за зачыненымі дзвярыма"; у напалову пустых залах не бачна было не толькі журналістаў, але і больш-менш вядомых прадстаўнікоў беларускай творчай інтэлігенцыі — не запрасілі. Магчыма — таму, што большасць удзельнікаў кангрэса стаялі за суверэнітэт сваіх краін і рынкавыя рэформы. Безумоўна, гучала і настальгія па былым росквіце сацыялістычнай культуры, па страчаных ідэалах. Аднак пераважала меркаванне, што інтэлігенцыя павінна абараніць грамадства ад рэстаўрацыі камуністычнай ідэалогіі і што духоўнае развіццё народа трэба грунтаваць на агульнадэмакратычных прынцыпах. Трэба змагацца з ілюзіяй, што нейкая партыя ці харызматычная асоба можа ўратаваць згубленую на шляху рэформаў духоўнасць.

Сярод галоўных праблем, абмеркаваных на кангрэсе, — аднаўленне традыцый узаемаўзбагачэння нацыянальных культур, пераадоленне негатыўных наступстваў распаду агульнай дзяржавы, аб'яднанне намаганняў у захаванні агульных культурных багаццяў і рэалізацыя супольных адукацыйных і мастацкіх праектаў. Былі зачытаныя прывітанні "кангрэсмэнам" ад Барыса Ельцына, Аляксандра Лукашэнкі і акадэміка Дзмітрыя Ліхачова. Прэзідэнт Беларусі выказаў надзею, што ўдзельнікі кангрэса "прыйдуць да адзінага правільнага рашэння, якое ў далейшым паслужыць развіццю нацыянальных культур і адначасова будзе садзейнічаць шчыльнаму духоўнаму ўзаемадзеянню нашых народаў".

На думку кіраўніка Навукова-асветнага цэнтра імя Ф.Скарыны Адама Мальдзіса, інтэграцыя ў сферы культуры, навукі і інфарматыкі сапраўды патрэбная народам нашых краін. Кангрэс быў цікавы ўжо дзеля параўнанняў. Сенсацыяй прагучала паведамленне, што ў Туркменістане на культуру выдаткоўваюцца 7 працэнтаў дзяржаўнага бюджэту (нагадаем, што ў Беларусі —толькі 4 працэнты). Апрача таго, у іншых краінах установам культуры шмат дапамагае нацыянальная буржуазія, якой у нас, па вядомых прычынах, пакуль што амаль няма. Такім чынам, культура ў Беларусі апынулася ў найбольш гаротным стане ў параўнанні з іншымі краінамі СНД. Ці зменіцца што-небудзь да наступнага кангрэса? Сёння гэтага не ведае ніхто.

**Юрась БАРЫСЕВІЧ**

# ... ДАПАМАГАЛІ І МЫ

24 мая, у Дзень славянскай пісьменнасці і культуры, у Беларускім універсітэце культуры адбылася прэзентацыя новага даведачнага выдання — шасцітомнага бібліяграфічнага слоўніка "Беларускія пісьменнікі", якое створана і выдадзена Інстытутам літаратуры імя Я.Купалы АН Беларусі і Беларускай энцыклапедыяй імя П.Броўкі.

У беларускай гісторыі і культуры, на жаль, шмат белых плямаў і забытых імёнаў. Выпуск слоўніка скіраваны на ўзнаўленне ўсёй складанай гісторыі беларускай літаратуры, на ліквідацыю ў гэтай гісторыі шматлікіх прагалаў. Задача даведніка — даць чытачам — літаратуразнаўцам, выкладчыкам і студэнтам, настаўнікам-філолагам, краязнаўцам, вучоным братніх рэспублік і замежных краін — дакладную, аб'ектыўную і поўную інфармацыю пра асноўны "кантынент" беларускай літаратуры, усіх яе прыкметных прадстаўнікоў, незалежна ад іх поглядаў і мастацкіх прынцыпаў.

Прэзентацыю даведніка праводзіла 304-я група факультэта бібліятэчна-інфармацыйных сістэм. Цяжка пазнаёміць аўдыторыю з усімі персаналіямі, уключанымі ў даведнік (бо гэта каля 1100 імёнаў). Таму ўвага акцэнтавалася на беларускіх класіках, малавядомых беларускіх пісьменніках і рэпрэсаваных, на беларускім замежжы і сучасных беларускіх паэтах і празаіках. Асобная старонка падчас прэзентацыі прысвячалася пісьменнікам —выкладчыкам Беларускага універсітэта культуры, пра якіх ёсць артыкулы ў гэтым унікальным слоўніку.

Беларусь яшчэ не мела выдання, падобнага гэтаму. Новы слоўнік уражвае шырынёю і глыбінёю даследавання матэрыялу. І заслуга тут найперш галоўнага рэдактара і кіраўніка навуковай тэмы прафесара Адама Мальдзіса і рэдакцыйнай калегіі. Дарэчы, на прэзентацыю былі запрошаны члены рэдакцыйнай калегіі А.Мальдзіс, Л.Савік, І.Хаўратовіч, Я.Сіпакоў. Яны расказалі аб сваёй даследчай працы, пра тое, як складаўся і выходзіў слоўнік. Паколькі на прэзентацыі прысутнічалі супрацоўнікі выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя", быў прадстаўлены і першы том новай "Беларускай энцыклапедыі", які толькі што выйшаў з друку.

З задавальненнем слухалі мы выступленні пісьменнікаў-выкладчыкаў універсітэта. Свае новыя вершы чытаў А.Майсеенка. Дацэнт універсітэта І.Цішчанка выказаў прапанову прадставіць слоўнік "Беларускія пісьменнікі" на Дзяржаўную прэмію.

Выданне новага слоўніка — значная падзея не толькі для літаратуразнаўства. Імкненне да бібліяграфічнай усеабдымнасці — адна з найгалоўнейшых вызначальных рыс слоўніка. Аб выкарыстанні даведніка ў бібліяграфічнай працы расказала загадчык аддзела беларускай літаратуры Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Л.Рабок.

Прыемна было пачуць падзяку, выказаную на адрас факультэта — за дапамогу студэнтаў і выкладчыкаў у стварэнні рабочай картатэкі для гэтага слоўніка. Супрацоўнікі выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя" запрасілі студэнтаў на працу, бо шмат яшчэ не вызначана ў гісторыі беларускай літаратуры, і займацца гэтым давядзецца маладому пакаленню.

**Таццяна ДЗЕМІДЗЕНКА,**
**студэнтка Беларускага універсітэта культуры.**

# БЕЛАРУСКІЯ МУЗЫКІ І ПРЭЗІДЭНЦКІЯ ВЫБАРЫ

У рамках расійскай акцыі ў падтрымку выбараў "Галасуй ці прайграеш" бярэ ўдзел адзіная беларуская група. Тэхна-дуэт "Ди-Бронкс и Натали" запрошаны маскоўскім прадстаўніком нямецкай кампаніі "ПоліГрам" для ўдзелу ў авіяпералёце з Уладзівастока ў Маскву. "Боінг-747" вылятае 16 чэрвеня ў 0 гадзін з Уладзівастока і, даганяючы час, па дарозе робіць прыпынкі ў розных гарадах Расіі, дзе вядомыя музыкі будуць выступаць перад моладдзю, заклікаючы ісці на выбары. Больш ніхто з айчынных рускамоўных музыкаў такога гонару не займеў, мусіць, іх не хвалюе лёс нашых суседзяў, а можа, папросту ўзровень прафесіяналізму не той.

**Валянцін ДЗЯНІСАЎ**

# КОМПАС "КУЛЬТУРЫ"

**6 чэрвеня** ў Мінску адбыўся канцэрт легендарнага расейскага рок-гурта "Воскресение" ў рамках джынсавага фестывалю "LEVI'S". Нагадаем, што гэта была ўжо другая спроба слынных музыкантаў выступіць на Беларусі. На шчасце, на гэты раз удалая.

У гэты ж дзень у Маладзечне адкрыўся традыцыйны штогадовы Нацыянальны фестываль беларускай песні і паэзіі, ужо чацвёрты па ліку. Сёлета гэтае свята абяцае стаць больш маштабным, бо апроч эстраднай і джазавай музыкі ў праграме з'явілася таксама народная і харавая.

**8 чэрвеня,** мабыць, стане прафесійным святам для ўсіх гэтак званых "вулічных" мастакоў. Бо ў гэты дзень адбылося ўрачыстае адкрыццё вернісажу на пл.Свабоды. Нагадаем, што мастакі, якія прадаюць свае творы на вуліцы, былі змушаныя пакінуць галоўны праспект сталіцы і перайсці ў скверык каля кансерваторыі амаль год таму, але афіцыйная цырымонія адкрыцця прайшла зусім нядаўна.

**А 21 чэрвеня** ў парку імя Горкага адбудзецца вялікае свята маладзёжнай музыкі. Адным з яго ініцыятараў выступіла французскае пасольства ў РБ.

Штогадовую прэмію Курта Тухальскага за шматгадовую барацьбу за свабоду ў грамадстве атрымала беларуская пісьменніца Святлана Алексіевіч. Прэмія заснавана шведскім ПЭН-клубам у гонар вядомага антыфашысцкага пісьменніка.

У касцёле святых Сымона і Алены адкрылася выстава самадзейнага мастака Юрыя Балашова. За апошні час ён стварыў васемнаццаць карцін, прысвечаных жыццю Ісуса Хрыста. На дэманстрацыю палотнаў у касцёле было дадзена благаславенне ксяндза Уладзіслава Завальнюка.

У Пастаўскім гарадскім Доме культуры прайшла творчая вечарына, прымеркаваная да 60-годдзя паэта Аркадзя Нафрановіча.

**Да 14 чэрвеня** ў памяшканні Купалаўскага тэатра будуць працягвацца гастролі Яраслаўскага акадэмічнага тэатра імя Ф.Волкава. Яшчэ можна паглядзець наступныя спектаклі: "Дэкамерон" паводле навел Дж.Бакача, "Без віны вінаватыя" паводле п'есы А.Астроўскага, а таксама камедыю "Хлуска" паводле твораў М.Міё і М.Энэскена.



Міжнародны фестываль царкоўнай музыкі закончыўся ў горадзе Гайнаўка. У пятнаццаты раз сюды з'ехаліся лепшыя царкоўныя хары, свецкія аматарскія і прафесійныя харавыя калектывы з трынаццаці краін свету.

На працягу тыдня сабор Святой Тройцы ў Гайнаўцы быў месцам конкурсных выступленняў калектываў з Польшчы і Швейцарыі, Югаславіі і Румыніі, Расіі і ЗША, іншых краін. Нашу краіну прадстаўлялі царкоўны хор з Віцебска, камерны хор з Пружан і Дзяржаўны хор радыё і тэлебачання Беларусі.

Усе беларускія калектывы адзначаны ўзнагародамі фестывалю, а кіраўнік Дзяржаўнага хору радыё і тэлебачання Беларусі прафесар Віктар Роўда ўзнагароджаны Вялікім Ганаровым прызам.

Скончыўся фестываль "Гайнаўка-96" гала-канцэртамі ў саборы Святой Тройцы і ў Беластоцкай філармоніі.

**Яўген КАЗЮЛЯ, БелТА**

*На здымках: падчас гала-канцэрта ў саборы Святой Тройцы; прафесар Віктар Роўда з Вялікім Ганаровым прызам.*

**Фота аўтара**



# ДА ДНЯ СЛАВЯНСКАГА ПІСЬМЕНСТВА І КУЛЬТУРЫ

У Аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў ЦНБ Беларусі арганізавана выстава, прысвечаная дню памяці славутых братоў Кірылы і Мефодзія, якія стварылі славянскую азбуку і паклалі пачатак распаўсюджванню пісьменнасці і культуры сярод славянскіх народаў.

Экспануюцца выданні кірылічнага друку XVII — XX стст., якія паступілі ў бібліятэку ў 1992 годзе. Належалі яны некалі калекцыянеру С.Ф.Севасьцьянаву (1872 — 1944) і былі набыты ў яго сына. Месца іх выдання — Масква, Кіеў, Пачаеў, Уральская стараверская друкарня.

Гэта праваслаўныя царкоўныя кнігі, якія прызначаліся для богаслужэння (Патэрык, Святцы, Устаў аб хрысціянскім жыцці і г.д.), выкарыстоўваліся для навучання грамаце (Псалтыр), хатняга чытання (Трэбнік).

Змест іх кананічны, аднастайны, але кожны экземпляр мае свае асаблівасці: рукапісныя запісы скорапісам, штампы, пячаткі і г.д.

Запісы на кнігах — спрадвечны звычай людзей. Рабіліся яны на ніжнім полі аркушаў. На асобным аркушы пісалася кожнае слова, склад ці нават літара, тады запіс расцягваўся амаль на ўсю кнігу. Па змесце гэта дарчыя, укладныя (аб ахвяраванні) запісы, радзей сустракаюцца надпісы гістарычнага, бытавога характару і інш. Зроблены яны скорапісам, які лёг у аснову грамадзянскага шрыфту, а пазней і сучаснага пісьма. Узорам такога скорапісу з'яўляецца ўкладны запіс, зроблены ў старадрукаванай кнізе Евангелле (Масква, 1668): "Евангилие напрестолное купили Иван да Фёдор Остафевы, дети Оникеевы, в приход свои в Саранском уезду, в село Качкари (?) в... церков пресвятыя богородицы казанские, да чудотворца Николы...".

Выклікае цікавасць рукапісны запіс гістарычнага характару, зроблены ў Трэбніку свецкім аб стварэнні горада Валдая: "...Наречеся город Валдай в лето по рождестве Христове 1772 года... по повелению самодержицы Екатерины Алексеевны."

Адзін з раздзелаў выставы прысвечаны пасляслоўям. Гэта старонкі выключнай важнасці, жывое слова выдаўцоў і друкароў, іх размова з сучаснікамі і нашчадкамі. Так, у пасляслоўі Трэфалагіёна (Масква, 1638) падаюцца звесткі аб пачатку кнігадруку ў Маскве: "При нём некии хитри мастеры явишася печатному сему делу, званием Иван диякон да Петр Мстисловец. И от того убо времени, от 60-аго году семыя тоя тысящи. И от 35-го лета царства его царя Иванна Васильевича сея Русии начашася быти печатныя книги".

Наведнікі выставы маюць магчымасць ацаніць мастацкае афармленне кнігі. Амаль усе яны, за выключэннем Патэрыка Кіева-Пячэрскага, двухколернага друку.

Да канца XVII стагоддзя ў кірылаўскіх кнігах дамінавалі гравюры на дрэве. Амаль усе кніжныя дрэварыты ананімныя, за выключэннем некаторых украінскіх. Вось і на нашай выставе прадстаўлены дрэварыт з подпісам аднаго з найбольш таленавітых майстроў кнігі на Украіне, які падпісаўся імем — "Ілія" (Патэрык Кіева-Пячэрскі, 1678). Гэта выданне наогул вызначаецца шматлікімі гравюрамі на дрэве, якія ілюструюць змест кнігі.

Наступны раздзел выставы прысвечаны стараверскім выданням ( Святцы, Трэбнік, Таржэственнік, Псалтыр). Гісторыя іх асаблівая:... Стараверам, якія не прызналі рэформы патрыярха Нікана 1653-56 гг., патрэбны былі дакладныя копіі маскоўскіх даніканаўскіх выданняў. Але гэтыя кнігі ў Расіі былі аб'яўлены па-за законам. Друкаваць іх даводзілася таемна. Прычым афармлялі іх такім чынам, што пры неабходнасці з іх маглі быць выцягнутыя выхадныя аркушы. Відавочна, для таго, каб уладальніка кнігі не маглі абвінаваціць у захоўванні забароненых выданняў. Часам выхадных аркушаў не было зусім, ці яны змяшчалі фальшывыя звесткі. Прадстаўленыя выданні (Трэбнік, Святцы) таксама не маюць выхадных звестак (яны вызначаны ўскосна).

Друкаваліся стараверскія кнігі, за выключэннем ранніх магілёўскіх пачатку XVIII ст., на рускай паперы, якая не мае жаўтаватага адцення. Цікава, што ў канцы 80-х гадоў XVIII ст. пачалі вырабляць паперу не белага, а блакітнага колеру, а к канцу стагоддзя — сіняга. Блакітная папера выразна бачна ў святцах (1784).

Звяртае на сябе ўвагу Трэбнік. Кніга выдадзена ў Старапаморскай друкарні не раней сярэдзіны XIX стагоддзя. У главе аб хрэсным знаменні змешчаны гравюры з відарысам двуперсця і тлумачэннем: "Три персты равно имети, великии со двема малыми в купе слагаеми. А два перста имети наклонены, а не простерты".

З 1820 года пачалі адкрывацца аднаверскія друкарні. Аднаверскае выданне ёсць і на нашай выставе (Таржэственнік. Масква, 1911).

На жаль, большасць прадстаўленых кніг дэфектная. Асобныя экземпляры без аркушаў у пачатку і канцы кніг, што цягне за сабой цяжкасці ў вызначэнні назвы кнігі, месца і часу яе выдання. Выхадныя звесткі ў іх вызначаны паводле бібліяграфічных крыніц, пасхаліі і г.д.

Усе гэтыя выданні надрукаваны на царкоўна-славянскай мове, варыянце старaславянскай, на якую Кірыл і Мефодзій у IX стагоддзі пераклалі хрысціянскія кнігі.

Спадзяемся, што выданні, якія з'яўляюцца помнікамі пісьменнасці і культуры, нашымі духоўнымі каштоўнасцямі, зацікавяць усіх, хто карыстаецца кірыліцай.

**Алена ЦІТАВЕЦ,**
**супрацоўніца Аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў.**

СІТУАЦЫЯ

# АДПАЧЫНАК: ЁН ЁСЦЬ ЦІ ЯГО НЯМА?

**_Супрацоўнікі Беларускага інстытута праблем культуры правялі сацыялагічнае апытанне насельніцтва ў розных рэгіёнах краіны. У ім узялі ўдзел 1250 чалавек — простыя нашы суграмадзяне, клубныя работнікі і ўдзельнікі самадзейных творчых калектываў. І ўсе пытанні тычыліся праблем вольнага часу. Спадзяемся, вынікі даследаванняў навукоўцаў будуць цікавымі чытачам нашага штотыднёвіка._**



ВЯДОМА, што на працягу адпачынку і проста невялікага вольнага часу адбываецца не толькі аднаўленне здольнасцяў да вытворчай працы, але і развіццё асабістых якасцяў чалавека. Ажыццяўляецца таксама і шэраг іншых сацыяльных функцый.

Як паказваюць вынікі даследаванняў, праводзімых у нашай краіне і за межамі, — вольны час з'яўляецца такой жа значнай сферай жыццядзейнасці, як і праца, для кожнага трэцяга. А доля тых людзей, для якіх адпачынак выступае галоўным задавальненнем у жыцці, вар'іруецца ў розных сацыяльна-прафесійных групах ад 19 да 34%.

У нашым даследаванні на пытанне: "Што вы лічыце найважнейшым паказчыкам поспеху?" — 32,8% з ліку апытаных адказалі: "Мець магчымасць і час для змястоўнага адпачынку". Такім чынам, вольны час для значнай часткі насельніцтва рэспублікі стаў адным з важных жыццёвых каштоўнасцяў.

На пытанне: "Колькі вы маеце вольнага часу?" — "амаль не маю" адказалі 26,2% жанчын і 15,6% мужчын. Рэспандэнты з вышэйшай адукацыяй (30,6 %) асабліва скардзяцца на адсутнасць нават лішняй хвіліны, у той момант як рэспандэнты з адукацыяй сямі класаў і меней адзначылі, што маюць пяць і больш гадзін у сябе "ў запасе" штодзённа (34,5%).

"Амаль няма вольнага часу" — адзначылі 35,3 % апытаных, што састаяць у шлюбе; 26,3 % усё-ткі адзначылі, што могуць дазволіць сабе пару гадзін і забыцца на ўсе справы. З чаго вынікае, што больш паловы абсалютна ці амаль зусім не маюць часу для рацыянальнага і паўнавартаснага адпачынку. Прычым на дэфіцыт вольнага часу скардзяцца больш гараджане. І калі ў Мінску 36,4% апытаных адзначылі, што яго амаль не маюць, то такіх сярод вяскоўцаў — 23,5%.

Найбольшым аб'ёмам вольнага часу валодае моладзь да 24 гадоў. І зусім яго нестае ў прадстаўнікоў насельніцтва сярэдніх узроставых груп ад 40 да 59 гадоў.

Большасць жа нашых суразмоўцаў (71,5%) адказалі, што 2 — 5 гадзін вызваліць ад працы ўсё ж удаецца. Але і гэты вольны час не заўжды выкарыстоўваецца рацыянальна, што ў немалой ступені залежыць ад узроўню яго арганізацыі адпаведнымі ўстановамі, а таксама асабістымі культурнымі запытамі чалавека. Толькі 18% з усіх апытаных выказалі задавальненне з нагоды выкарыстання адпачынку. 49,4% хацелі б праводзіць свой вольны час больш змястоўна, а 16,9 % — увогуле не задаволены "якасцю" тых некалькіх вырваных у працы гадзін. А ў 15,7% нашых рэспандэнтаў, напэўна, так скамячана і сумбурна праходзіць вольны час, што зусім нічога змястоўнага з гэтай нагоды сказаць не маглі. Можна смела сцвярджаць, што нерэалізацыя культурных арыентацый залежыць не толькі ад недахопу вольнага часу, але і ад іншых аб'ектыўных падстаў: здароўя, грашовых сродкаў, ведаў, нㅤяразвітай культурнай інфраструктуры.

І таму адказы на пытанне "З якой нагоды вы не задаволены правядзеннем вольнага часу?" размясціліся наступным чынам:

не хапае грошай — 48,5 %;

няма здольнасцяў, каб арганізаваць свой адпачынак — 25,8%;

адсутнасць па месцы жыхарства ўстаноў культуры і спорту — 25%;

дрэнна працуюць установы культуры — 9, 8%;

дрэнна працуюць спартыўныя ўстановы — 8,7%.

Іншы адказ знайшлі 6,4% намі апытаных.

Як ні дзіўна, у сённяшні складаны час і пры агульнай нястачы грашовых сродкаў, што выдаткоўваюцца на культуру, нашы рэспандэнты высока ацэньваюць працу клубаў і іншых устаноў культуры. Адказы на пытанне — "Хто вам дапамагае пры арганізацыі вольнага часу?" — 23,8% адказалі, што супрацоўнікі клубаў, бібліятэк, музеяў і г.д. Гэта вялікая лічба, у параўнанні з тым, што для іншых адказнымі за адпачынак з'яўляюцца настаўнікі (2,0%), бацькі (5,7%) і родныя (7,1%). Але і яны не могуць стварыць канкурэнцыю сябрам. Для 47,7% апытаных — яны лепшыя гіды, экскурсаводы па барах, дыскатэках і лясных масівах. 40,6% — лічаць лепшымі масавікамі-зацейнікамі менавіта сябе. А таму 60,5% людзей часцей за ўсё ўвесь свой вольны час праводзіць дома, на вуліцы спажывання, і кола зносінаў, у асноўным, замыкаецца на сябрах па працы, вучобе, суседзях, на членах сям'і...

Па ўсім бачна, сённяшняя эканамічная цяжкасці сур'ёзна паўплывалі на правядзенне вольнага часу, больш загналі яго ў рамкі двароў і кватэры, чым, напрыклад, 10 гадоў таму. Так, пры адказе на пытанне: "Ці з'явіліся ў вас змены ў адносінах правядзення адпачынку за апошнія пяць гадоў?", 41,0% апытаных адзначылі, што яны сталі радзей хадзіць у кіно, тэатр, музеі і клубы, больш сядзець ля тэлевізара; 36,1% заявілі, што больш займаюцца вырашэннем побытавых праблемаў; 23,7% рэспандэнтаў сталі радзей хадзіць у госці; у кампаніі сяброў —24,2%, на "пленэры" — 17,2%, і 10,2% — у гасцях.

І толькі 16,1% — у клубе, 6,2% — у бібліятэцы, 4,2% — на спартыўных пляцоўках, 2,8% — у кіно, 0,2% — у музеі.

Прыведзеныя вышэй дадзеныя сведчаць аб пэўным адмашніванні адпачынку і культурнага 10,9% — цяпер меней наведваюць установы культуры і спорту. Такое змяншэнне колькасці кантактаў, звядзенне іх да больш вузкага кола часцей з'яўляецца прычынай адзіноцтва. І на пытанне "Адчуваеце вы сябе ў апошнія гады самотным?" — 10% адказалі станоўча, 12% — набліжаюцца да гэтай рысы.

Вывучэнне матэрыялаў даследавання таксама паказвае, што існуе разыходжанне між мадэллю жадаемага вольнага часу, працсей — уяўленнем аб тым, чым бы хацелася займацца на працягу адпачынку, і фактычным.

Больш паловы вольнага часу насельніцтва наўпрост звязана з выкарыстаннем сродкаў масавай інфармацыі. Перш за ўсё — тэлебачання — 74,7%, 56,6% — рэгулярна заняты чытаннем газет і часопісаў, 51,1% — слухаюць радыё, 50,6% — чытаюць мастацкую літаратуру, і тут перавага ў правядзенні вольнага часу аддадзена хатняму асяродку, усё ж — вельмі пасіўнаму. Тады як грамадская праца, непрафесійная самадзейная творчасць і аматарскія заняткі, што ствараюць падставы для шматграннай працы, выклікаюць не такі ўжо вялікі інтарэс — 2,9%, 9,0%, 8,5% адпаведна.

Як ужо сцвярджалася вышэй, значны інтарэс у сучаснай сацыяльна-эканамічнай сітуацыі праяўляе насельніцтва да магчымасці авалодвання ведамі з дапамогай клубаў і іншых устаноў культуры.

Так 36,1% апытаных выказалі жаданне навучыцца шыццю і вязанню, 24,4% — авалодаць эканамічнымі і гаспадарчымі ведамі, 13,1% — культурай паводзін, 13,4% — тэхнічнымі навыкамі. Калі бачыш гэтыя лічбы, узнікае думка, што ў рацыянальнай структуры вольнага часу ў сучасных умовах адно з вядучых месцаў павінны займаць рухомыя віды дзейнасці: заняткі спортам, рыбная лоўля і паляванне, прагулкі і паездкі за горад, турыстычныя вандроўкі. Яны садзейнічаюць умацненню здароўя, папаўняюць дэфіцыт станоўчых эмоцый, стымулююць развіццё творчых здольнасцяў, мыслення, а таксама многіх сацыяльных і псіхалагічных якасцяў, такіх, як цікаўнасць, назіральнасць, воля, самакрытычнасць. Выдаткі часу на гэтыя віды дзейнасці вельмі аддаленыя ад жадаемых. Так, напрыклад, для гараджан яны павінны складаць не менш за шэсць гадзін на тыдзень. 29,8 працэнта нашых рэспандэнтаў сведчаць, што хацелі б займацца фізкультурай, спортам і турызмам, але толькі 12% сістэматычна наведваюць спартыўныя ўстановы, 39,3 % — зрэдку, 40,6% — увогуле забыліся, што гэта такое.

Затраты часу на непрафесійную творчасць застаюцца вельмі значнымі, нягледзячы на тое, што за апошнія гады назіраецца тэндэнцыя да зніжэння ў сувязі са складанай эканамічнай сітуацыяй. 21,1% апытаных заявілі, што хацелі б у сценах клуба авалодаць мастацтвам спеваў, танцаў, малявання, ігры на музычных інструментах. 9% не прэч стаць удзельнікамі харавых калектываў, вакальна-інструментальных ансамбляў, ансамбляў песні і танца. 8,5% з вялікім задавальненнем сталі б сябрамі суполак аматараў музыкі, літаратуры, тэатра і кіно. Сацыяльныя запыты насельніцтва з дадзеных відаў творчасці галоўным чынам звязаны з правядзеннем вольнага часу.

Лічбы — рэч, бясспрэчна, добрая, і быццам бы кажуць самі за сябе. Але без пэўных высноваў нельга не абысціся. Дзеля таго каб наш адпачынак быў змястоўным і цікавым, дапамагаў пры развіцці чалавечых здольнасцяў, неабходна прыкласці ўсе асноўныя намаганні супрацоўнікаў устаноў культуры, каб перш за ўсё забяспечыць перавагу агульных форм вольнага часу над індывідуальнымі. Асабліва гэта важна для моладзі. Толькі ж, вядома, на адным энтузіязме далёка не зрушышся...

Суадносіны паміж арыентацыяй на пашырэнне ўдзелу ў канкрэтных формах сацыяльна-культурнай дзейнасці падчас адпачынку і фактычным удзелам у іх кажуць аб тым, што ў грамадстве аб'ектыўна існуюць умовы для задавальнення запытаў насельніцтва. Супярэчнасць між суб'ектыўнай гатоўнасцю да ўдзелу ў пэўных формах культурнай дзейнасці і фактычным удзелам у іх з'яўляецца ўнутранай крыніцай сацыяльнага развіцця дадзенай сферы грамадскага жыцця.

**А. КАЧАРГІНА,**
**старшы навуковы супрацоўнік БелІПК.**

ПАД НІЗКІМ НЕБАМ

# КУЛЬТУРА Ў АСОБАХ, СЛУЖБОВЫХ ЗАНАТОЎКАХ І ВЕРШАХ

***Дзесяць гадоў чалавек не быў на Гомельшчыне. Апошні раз — праз месяц пасля аварыі, у Брагіне. Падчас чорнага “юбілею” зноў сустрэліся... У рубрыцы “Пад нізкім небам” мы пачынаем друкаваць матэрыялы нашага спецыяльнага карэспандэнта Навума ЦЫПІСА.***

У цэнтры Жоржа Пампіду ў Парыжы ёсць незвычайны гадзіннік: з адваротным адлікам секунд. Гадзіннік паказвае, колькі імгненняў засталося да пачатку новага тысячагоддзя. Зараз, калі я пішу гэтыя радкі, гадзіннік пачаў адлічваць апошнюю сотню тысяч секунд васемнаццатага мільёна. Цудоўны гадзіннік нібы нагадвае кожнаму з нас, што асабісты час — гэта агульнанацыянальны набытак, што мы так легкадумна марнуем свае 250 мільёнаў секунд, што наспеў час кожнаму з нас уключыць свой адваротны адлік і пачаць нарэшце рабіць дабро...

А яшчэ гэты гадзіннік гаворыць пра тое, што гэта асабліва важна для Беларусі, на якую звалілася такая страшная навала — Чарнобыль... Адна толькі думка, што мы ўсе жывем пад нашым агульным, нізкім небам і што парыжскі гадзіннік вядзе адлік нам, нашым дзецям і ўнукам. І толькі гэтая думка павінна зрабіць нас больш чалавечнымі.

Алег Раманавіч Маісеенка — начальнік упраўлення культуры Гомельскай вобласці. Чалавек сярэдняга ўзросту, з троху хрыплаватым голасам, спартыўнай постаццю і надзвычай маладым тварам: вочы, усмешка — абаяльна чыстая — вось і ўся загадка. Вонкавая. А ўнутрана здолеў адчуць: ні вопыт адміністрацыйнай працы, ні лабірынты ўладных структур не пакінулі заўважнага следу ў душы. А вось работа ў камсамоле, я маю на ўвазе маладое атачэнне, сяброўства з Анатолем Грачанікавым, працяглая праца з культурай — гэта пакінула след, прычым заўважны.

Ён ніводнага разу падчас нашых доўгіх размоў і паездак не дастаў паперак: усё напамяць. Ён ведае пра тое, чым кіруе, літаральна ўсё. Бачылі б вы ягоныя вочы, калі ён перахапіў мой позірк у музеі ў Ветцы. (Мне сорамна, але раней я ў гэтым музеі не быў... І не паспеў пакланіцца ягонаму стваральніку Фёдару Рыгоравічу Шклярову. Мабыць, я шмат што згубіў у вачах Маісеенкі, але што паробіш... Як казаў адзін мой знаёмы: “Нельга абняць усіх, хаця гэтага і хочацца”.)

Мы прыехалі туды, калі ў музеі не было экскурсавода. За ім пасляалі. А пакуль Алег Раманавіч замест навуковага супрацоўніка “выдаў” мне лекцыю — і не трэба было нікога іншага, але ўсё ж прыйшоў гід — Ірына Юр’еўна Чыжова. А як яна працягнула! Паясы, абразы, разьба, кнігі — 500-гадовай даўніны! — адна з іх перайшла ад цара да апошняга гаспадара — беларускага селяніна, а ўжо ад яго да стваральніка музея — і да нас, да народа...

Вось тады і ўбачыў я, звар’яцеўшы ад казачнага багацця, ягоны позірк — поўны гонару за сваю радзіму, за гамяльчан, ён быў шчаслівы ад усведамлення сваёй прыналежнасці да стварэння і захавання жыцця гэтага сховішча народнай душы.

Маісеенка нарадзіўся ў Гомельскім раёне ў вёсцы Цярэнічы. “Памятаю бамбёжку... Маці кінула нас у акоп і накрыла сабой... Бацька прапаў без вестак. Сусед вярнуўся з вайны, сказаў, што бачыў яго у канцлагеры. Дасюль не ведаю, дзе ягоная магіла...”

Школа. Мастацкая школа не атрымалася — спазніўся. “А маляваў някепска...” Смяецца. (Ён і зараз зрэдку малюе, але часу нестае.) Прафтэхвучэльня — спецыяліст па радыёвузлах — такая спецыяльнасць. Армія. Марская авіяцыя. Ціхі акіян. А потым зноў Гомель, педагагічны інстытут, літаратурны факультэт. Гены спрацавалі — маці была выкладчыцай рускай мовы і літаратуры. Камсамол, партыя, культура. “Як гэта вы здолелі не зламацца?”. — “Не паспеў: я далей за інструктара не ўзнімаўся”. Смяемся абодва. Чаго тут болей: іроніі, болю, жарту? А вочы ўсё ж у начальніка добрыя, “дэмакратычныя” вочы...

А ажаніўся як? Вельмі проста: сустрэў і ажаніўся. Інжынер. Таксама сірата — таксама з-за вайны. Дзве дачкі... (Як і ў мяне. Тут мы цалкам зразумелі адзін аднаго:



*Алег Маісеенка*

дзве дачкі — гэта не два сыны. Добра. Хай будуць здаровыя і нараджаюць унукаў.)

“Не было такой думкі (а можа, жонка падбухторвала?) — узяць ды паехаць?” — Не. Ніводнага разу. Працы было тады так шмат, што не да думак было.. Ды і не паехаў бы я ўсё роўна”.

Яшчэ да нашай гутаркі я ведаў, што Маісеенка, з’яўляючыся членам камісіі па ліквідацыі наступстваў Чарнобыльскай катастрофы, адзіны з усіх дзеячаў культуры Гомельшчыны атрымаў ордэн “Знак Пашаны”.

“Ці цягнула да творчасці? Так, і зараз цягне. Я калісьці вершы свае Грачанікаву паказаў — ён быў першым сакратаром гаркама, а я — другім, — ён і сказаў: чаго ты не друкуешся, час ужо. Але неяк не атрымалася... Мабыць, ува мне перамог чыноўнік, бюракрат.” Смяецца. Пра гэтага “бюракрата” цёпла ўспамінаюць людзі, якія не цярпяць бюракратаў, — паэты-гамяльчане Юрый Фатнеў і Міхась Башлакоў. Ён ужо 20 гадоў кіруе культурай. Але ў тым і справа, што не кіруе. Неаднаразова чуў ад ягоных падначаленых, іншы раз і з вельмі складанымі характарамі, што “да кіраўніцтва ніякіх прэтэнзій, акрамя ўдзячнасці, няма”. Дорага каштуе такая ацэнка ў гэтым асяроддзі: тут амаль усе — таленты, зрэдку каго можна назваць папросту здольным.

Мы доўга сядзелі з ім, перабіраючы стос папер, квіткоў, праграмак, афіш. Ён горача і з болем казаў пра тое, што шмат хто з тых, хто нібыта хвалюецца за лёс ахвяр Чарнобыля, — балбатуны. Пастановы і рашэнні па вобласці, якая прыняла на сябе ўдар “вечнай” бяды, не выконваюцца. І вось тут, у гэтым кабінеце, ён ужо дзесяць гадоў імкнецца ўтрымаць сітуацыю па трох асноўных накірунках. А яны наступныя, гэтыя накірункі: абслугоўванне насельніцтва, кадры і захаванне культурнай спадчыны. І ўсё гэта патрабуе матэрыяльнага забеспячэння, апаратуры, спецыяльных сродкаў, прафесіяналаў і іхняй падрыхтоўкі, арганізатараў і — грошай, грошай, грошай...

У гэты дзень я даведаўся, якая велізарная колькасць мерапрыемстваў абрынулася на Гомель падчас “юбілейных дзён”. Літаратурныя сустрэчы — Бранск, Чарнігаў, Гомель, Мінск — пад назвай “Над Дняпром, Дзясной і Сожам”; міжнародны фестываль “Славянскія тэатральныя сустрэчы”; міжнародны конкурс “Музычныя надзеі”; дзіцячая выстава мастацкай творчасці абласнога цэнтра; абласная мастацкая выстава; у абласной бібліятэцы — бранскі мастак К.Папоў выставіў свае карціны “Закінутыя вёскі” і яшчэ адна выстава — фота — “Каму патрэбен чорны хлеб?”. Шмат слынных імёнаў — Лучанок, Буднік, Шахлевіч, Фельдман, Караткевіч, Анісенка, Дрыneўскі... Сотні імёнаў! І пакацілася — з Гомеля ў Мінск — і назад, а там “все флаги в гости”... Нагода сумная, і думкі адпаведныя. Але гэта карысна, асабліва сёння.

Начальнік упраўлення жорстка размаўляў з мінскім кіраўніцтвам. Тэлефонная слухаўка злёгку пачырванела ад напружання... “Не! Гэтага я не разумею і не зразумею ніколі. Людзей падманваць нельга. А нас — гэта папросту грэх... Не. Вырашайце. Я буду чакаць тэлефанавання”.

— Я ўжо ім надакучыў. Але ж гэта не па-людску. Хворае дзіця ў сям’і любяць, шкадуюць, аддаюць самае лепшае, а ў нас? Падманваюць, абразаюць, памяншаюць, несправядліва дзеляць або ўвогуле адмаўляюць, маўляў, навошта вам даваць, калі ўсё роўна карысці ад вас няма? Але пачалося такое стаўленне не сёння. Памятаю, выдзелілі нам гады два-тры таму 1,2 мільёна рублёў на рэстаўрацыю. Усяго па Беларусі па гэтым артыкуле выдзялецца 45 мільёнаў. Нават калі пароўну ўсім дзяліць, дык і тады нам не дадалі 6 мільёнаў. “А вы неперспектыўныя”, — такое я атрымаў тлумачэнне.

Спачатку я хацеў зрабіць з Алегам Раманавічам інтэрв'ю, але потым вырашыў апублікаваць замест гэтага два дакументы. Тады чытачу, напэўна, стануць зразумелыя ягоныя турботы, гэта значыць, турботы ў галіне культуры. А інтэрв'ю — троху пазней. Такім чынам, службовыя лісты, якія я назваў:

## 1. З ПАВАГАЙ І НАДЗЕЯЙ

Намесніку Міністра фінансаў Рэспублікі Беларусь Свержу А.І.

Паважаны Анатоль Іосіфавіч!

Прадстаўлены праект бюджэту па галіне на 1996 г. нават без ягонага дэтальнага аналізу сведчыць пра тое, што галіна знаходзіцца на мяжы гібелі. Пры нашых патрэбах (толькі неабходных) у 274,6 мільярда рублёў на культуру выдзяляецца толькі 105,1 альбо 38,3 працэнта. І гэта пры тым, што ўжо на працягу чатырох гадоў нам хранічна не хапае сродкаў. Мы не ў стане весці работы па рамонце будынкаў, няма абсталявання, інвентару, апаратуры...

Сёння больш за 200 дамоў культуры, у тым ліку і больш за палову гарадскіх і раённых, патрабуюць капітальнага рамонту. Толькі 2 працэнты ад усіх сродкаў, выдзеленых на культуру, выкарыстаны на рамонт. У чатыры разы меней — на набыццё.

Галіна такім чынам існаваць не можа і не можа выконваць задачу псіхалагічнай рэабілітацыі насельніцтва, якое жыве ў зоне радыяцыйнага кантролю.

Да прыкладу: абласны тэатр лялек, які не мае стацыянарнага памяшкання, працуе “з колаў”. Транспарт і апаратура хутка псуюцца. Толькі адна гэтая ўстанова патрабуе больш за 1,5 мільярда рублёў для забеспячэння яе дзейнасці па абслугоўванні дзяцей. З прычыны адсутнасці нармальных умоў працы работнікаў культуры і мастацтва перакананаўча просім падтрымаць нашыя просьбы і павялічыць фінансаванне культуры вобласці на 1996 г. хаця б на 70 працэнтаў ад разліковага і ўключыць у план фінансавання будаўніцтва прыбудовы да абласной бібліятэкі імя У.Леніна за кошт сродкаў рэспубліканскага бюджэту.

З павагай і надзеяй А.Маісеенка

## 2. НЕ ХАПАЕ БОЛЬШ ЗА ПАЛОВУ

Старшыні абласнога Савета дэпутатаў Сяліцкаму У.С.

У 1996 г. на ўтрыманне ўстаноў культуры і мастацтва выдзелена бюджэтных сродкаў 38,3 працэнта ад патрэбаў:

Патрэбы
274,6
у тым ліку:
Дзіцячыя музычныя школы 106,8
Культасветустановы 160,0
Датацыя тэатральна-відовішчных прадпрыемстваў 7,8
Выдзелена
105,1
29,8
68,5
6,8
Працэнты
38,3
27,9
42,8
87,2

Сродкаў на набыццё, рамонт, камплектаванне бібліятэк не прадугледжваецца. Заработная плата ў бюджэце галіны складае 87,2 працэнта. Выдзеленых сродкаў не хапае нават на аплату працы. На працягу апошніх чатырох гадоў на культуру выдзяляюцца мізэрныя сродкі. Матэрыяльная база ў заняпадзе. Большасць будынкаў устаноў культуры патрабуе тэрміновага капітальнага рамонту, больш за палову іх пазбаўлена ацяплення на працягу апошніх двух гадоў. Крэдытарская запазычанасць за камунальныя паслугі на 10 лютага склала 5,0 мільярдаў рублёў. Выдаткі кніжных фондаў значна перавышаюць паступленне.

Для таго, каб нейкім чынам кампенсаваць недастатковасць бюджэтнага фінансавання, неабходна павялічыць аб'ём прыбыткаў ад аказваемых платных паслуг. Для гэтага неабходна:

1. Выдзяленне сродкаў на ўмацаванне матэрыяльна-тэхнічнай базы, бо апаратура і абсталяванне, якія ў нас ёсць, не ў стане забяспечыць належнай якасці паслуг;

2. Прыняць рашэнне аб вызва-



*Фестываль “Белыя Крылы”.*

## ПАД НІЗКІМ НЕБАМ

ленні ўстаноў культуры ад мясцовых падаткаў;

3. Унесці прапанову ў Вярхоўны Савет РБ аб вызваленні сацыяльна-культурных устаноў і тэатральна-відовішчных прадпрыемстваў ад падаткаў, бо 60 працэнтаў іх выдаткаў пакрываюць датацыі з бюджэту;

4. Увесці падатак на ўтрыманне і развіццё ўстаноў культуры і мастацтва ў памеры 1 — 2 працэнты ад прыбытку, што застаецца ў карыстанні прадпрыемстваў і арганізацый усіх формаў уласнасці.

Начальнік упраўлення А.Маісеенка.

* * *

Мяркую, што цяпер стала зразумелым, што такое культура Гомельшчыны напрыканцы першага дзесяцігоддзя постчарнобыльскай эры. Цяпер можна пераходзіць да дэтальнага разгляду трох праблем галіны.

### РАЗМОВА ПРА ТРОХ КІТОЎ

Мой дыктафон запісваў не толькі тое, што мне было патрэбна, але і ўсё астатняе: тэлефанаванні з раёнаў, адкуль павінны былі паехаць у Мінск дэлегацыі, размовы людзей, якія вырашалі пытанні выставаў, канцэртаў, міжнародных фестываляў і конкурсаў у Гомелі, праблемы транспарту, размяшчэння, харчавання...

Тэлефанаванне ў Мінск, намесніку міністра культуры. Так, дакумент падпісаны, фінансаванне дэлегацый дазволена, але кіраўнікі аддзелаў культуры сюды не ўключаны... Як? Што? Чаму?

Яшчэ адна гутарка: дзіўна, чаму Магілёўскай і Гомельскай абласцям выдзелілі аднолькавую колькасць месцаў? Гомелю павялічылі, як мы і патрабавалі? Цудоўна. Я зараз патэлефаную людзям, каб іх супакоіць... Супакоіў.

Праз гадзіну — новая інфармацыя "зверху". Аказваецца, не толькі не павялічылі, а нават паменшылі. Што? Як? Чаму? Людзі ж ужо сядзяць на валізках!

У кабінет улятае ўстрывожаная маладая жанчына. Кідаецца ў ногі: аўтобуса няма, дэлегацыя раёна не паспявае ў Мінск. Машына на замену ёсць, але няма паліва. Праз паўгадзіны — Гомельскі тэатр. Там таксама ўсе стаяць на галовах: заўтра прэм'ера — вадэвіль! Сто гадоў ужо не ігралі вадэвіляў — ці атрымаецца? Нарэшце знайшлося паліва, а я атрымаў запрашэнне на прэм'еру.

Тэлефанаванне з Лельчыц. Старшыня райвыканкама. Голас такі, што і мне чуваць:

— Мае не паедуць!

— Чаму?

— Адкуль грошы? Мы настаўнікам ды медыкам за люты зарплату не аддалі.

Маісеенка сумна раступмачвае:

— Гэта — толькі пачатак. Заўтра ўсе пачнуць адмаўляцца.

— І што ж гэта будзе?

— Калі Міністэрства па надзвычайных сітуацыях не дасць грошай на дарогу хаця мільёнаў 50, дык і не будзе Гомельшчыны на фестывалі.

... Вось так і гутарым у перапынках паміж тэлефанаваннямі.

— Алег Раманавіч, як Чарнобыль адбіўся на стане культуры ў вобласці?

— Мы страцілі 358 устаноў культуры: 135 клубаў, 225 бібліятэк, парк культуры і адпачынку. Кніжны фонд бібліятэк скараціўся на 3 мільёны тамоў, музычныя школы страцілі 296 вучняў, хаця колькасць школ за гэты перыяд павялічылася на 13.

— А акрамя школ, ці будавалі Вы яшчэ нешта?

— У раёнах, пацярпелых ад аварыі, пабудавана 90 клубаў, дзве музычныя школы. Але ў плане: 122 клубы, 15 музычных школ, мастацкая вучэльня, філармонія, прыбудова да абласной бібліятэкі. З 1988 па 1992 гады былі створаны новыя дзяржаўныя музеі ў Брагіне, Чачэрску, Лельчыцах, Нароўлі і Хойніках, якія сталі асноўнымі збіральнікамі і захавальнікамі багатай фальклорна-этнаграфічнай і гістарычнай спадчыны.

Супрацоўнікамі музеяў і абласным археалагічным цэнтрам былі даследаваны адселеныя пункты ў пацярпелых раёнах, помнікі археалогіі, зроблена іх паспартызацыя, і ўсе яны нанесены на карты землекарыстання гаспадарак.

— А што рабіць з тым, што немагчыма захаваць?

— За гэты перыяд створана больш за 50 відэафільмаў пра народных майстроў, рамёствы, традыцыйныя святы і абрады, унікальныя фальклорныя калектывы. На магнітную стужку з дапамогай Беларускага радыё запісаны фальклорныя калектывы вёсак, якія адселены. Гэта, лічу, зроблена. А вось бібліятэкі панеслі вялікія страты. Яны страцілі 132 тысячы найменняў.

— Чарнобыль нанёс гамяльчанам псіхалагічную траўму. Такія траўмы, на маю думку, лячыць трэба клопатам, увагай, мастацтвам...

— Сёння значна паменела жадаючых ехаць у зону з выступленнямі. За гэтыя гады шмат давялося пабачыць. Былі артысты, якія ўсё разумелі. Гэта "Песняры" і "Чараўніцы", "Верасы" і "Сябры", П'еха і Лявонцьеў, Лучанок і Буднік. Мы не забудземся на мастакоў В.Шматава, В.Барабанцава, В.Кожуха, М.Чудзіка і іхніх калег, якія стварылі цудоўную карцінную галерэю ў Брагінскім музеі. Мы не забудземся на галоўнага рэжысёра Ленінградскага тэатра Ігара Гарбачова, які дайшоў да экспертаў МАГАТЭ, каб давесці сваім артыстам, што да нас трэба прыехаць. Спіс гэты можна працягваць. Але не абыходзілася і без анекдотаў. Адзін з цыркавых калектываў даслаў тэлеграму, паведамляючы, што прыехаць не зможа: "Жывёлам небяспечна знаходзіцца ў Чарнобыльскай зоне...". У нас захоўваюцца дзесяткі тэлеграм з адмовамі нават па планавых гастролях. Апошнія пяць гадоў былі амаль пустыя — ніхто не ехаў да нас. Зараз трохі лепей стала. Магчыма, вінаваты "юбілей". Але мы ў тыя гады абыходзіліся сваімі сіламі. Гомельскімі тэатрамі і філармоніяй за дзесяць гадоў было дадзена ў пацярпелых раёнах больш за 800 спектакляў і 5560 канцэртаў. Падчас дабрачыннай акцыі, якую мы наладзілі разам з абласным фондам "Дапамога дзецям Чарнобыля" і пры падтрымцы Міністэрства культуры, за 1992-94 гады толькі абласны тэатр лялек паказаў 376 спектакляў, якія паглядзелі 109426 дзяцей. Праводзіліся такія акцыі, як музычны фестываль "Дзякуй вам, людзі!", "Музычнае Палессе", "Тэатр — дзецям Чарнобыля". Людзі вельмі добра ўспрымаюць фестывалі "Славянскія тэатральныя сустрэчы" і "Беларуская музычная восень".

— А як у Вас з кадрамі, якія, як вядома, вырашаюць усё?

— Нягледзячы на вялікія праблемы, за апошнія тры гады ўзрасла колькасць клубаў — на 423, калектываў мастацкай самадзейнасці — на 194, аматарскіх аб'яднанняў і клубаў па інтарэсах — на 16. Са здзіўленнем і радасцю магу адзначыць, што найвялікшы "прырост" калектываў і гурткоў даюць найбольш пацярпелыя раёны — Чачэрскі, Нараўлянскі, Хойніцкі. Ёсць пра што паразважаць... Людзі стаміліся ад гора. Яны хочуць жыць.

— І што Вы прыдумалі?

— Адной з найважнейшых праблем галіны з'яўляецца кадравая. Вобласць пакінулі найбольш прафесійныя супрацоўнікі. Мы распрацавалі мэтавую праграму "Кадры", накіравалі на вучобу больш за 4 тысячы абітурыентаў. Вырашалі гэтыя пытанні і ў сябе ў вобласці. Гэта была безвыходная сітуацыя: у сельскіх клубах працавала 50 працэнтаў людзей без адпаведнай адукацыі, а ў музычных школах выкладалі студэнты. Гомельскую музычную вучэльню мы рэарганізавалі ў каледж мастацтваў і на ягонай базе адкрылі аддзяленне па падрыхтоўцы спецыялістаў па клубнай рабоце і харэаграфіі. На базе Мазырскай музычнай вучэльні летась адкрыты філіял завочнага факультэта Беларускага універсітэта культуры. У Гомелі адкрыты таксама філіял Мінскай мастацкай вучэльні імя Глебава. Мы пабудавалі для сваіх супрацоўнікаў 82 кватэры. Усё гэта паспрыяла, безумоўна, падвышэнню кваліфікацый кадраў. Колькасць спецыялістаў, якія працуюць у галіне, павялічылася на 7 працэнтаў.

— За які час былі падрыхтаваны гэтыя 7 працэнтаў?

— За пяць гадоў.

— Праз дзесяць гадоў у вас будзе ўжо поўны камплект.

— (Смяецца). Калі б вы ведалі, якімі высілкамі...

— Ну, добра. Не так ужо ўсё змрочна, як падаецца здалёк. А што ў Вас горш за ўсё, што не атрымалася?

— Не можам скончыць пачатыя будоўлі, не кажучы ўжо пра новае будаўніцтва. Не можам вырашыць транспартнае пытанне. Аўтобус у жудасным стане. Артысты называюць яго "Кубань — баявая машына культуры". Улетку ў ім няма чым дыхаць ад пылу і газаў, а ўзімку — замярзаем. А яшчэ ж і касцюмы трэба везці. Ніводны наш тэатр, ні філармонія не маюць нармальнага транспарту.

— Што б Вы хацелі дадаць напрыканцы нашай размовы?

— Адзінае, але вельмі істотнае: у дзяржаўнай праграме ліквідацыі наступстваў аварыі не ўлічваюцца і практычна не фінансуюцца пытанні, звязаныя з захаваннем гісторыка-культурнай спадчыны ў пацярпелых раёнах. Усё, што зроблена ў гэтым накірунку, здзейснена за кошт энтузіязму работнікаў культуры. Не існуе адзінай праграмы забеспячэння культурнага абслугоўвання насельніцтва, адсутнічае матэрыяльна-тэхнічнае забеспячэнне дзейнасці ўстаноў культуры і мастацтва... Шмат кепскага, што тут і казаць. Але ёсць прынцыповыя змены: людзі не хочуць больш жыць па-быдлячы... І гэта — прыкмета часу.

— Алег Раманавіч, я ведаю, што Вы пішаце вершы. Ці не падорыце адзін з іх нашым чытачам?

Падарыў. Праўда, гэта не вельмі вясёлы верш, але, мне падаецца, ён не пакідае сумніву ў тым, што аўтар ягоны — паэт.

* * *

Алег МАІСЕЕНКА

### ПЛАЧ ПА ВЁСЦЫ

На вачах у мяне  
час чарнобыльскі чыніць  
святыні абразу —  
Не нябогу хаваюць,  
а вёску, што ў зоне.  
Усю. Разам.  
Рве зямлю экскаватар...  
Жалеза страшэнная  
сіла  
Чорнай лапай Чарнобыля  
вёсцы Печы, пакінутай людам,  
капае магілу.  
У прадчуванні  
апошняй мінуты  
сялянскія хаты  
застылі,  
Вочы-вокны у неба  
з мальбой:  
— За якія грахі, Божа,  
мілы?!  
З веку ў век  
на зямлі  
шчыравалі тут добрыя людзі,  
Ў сценах нашых жылі...  
Што, ўжо гэтага  
болей ніколі не будзе?!  
Чулі нашыя сцены  
пяшчотныя словы  
кахання...  
Што, няўжо гэта ўраз  
будзе сёння усё пахавана?!  
На вяселлях няўжо  
не зайграюць музыкі ніколі?  
Плуг вясной не кране  
Абласканае сонейкам поле?  
Ці ніколі ўжо больш  
не засвеціцца радасцю маці,  
Звонкі голас пачуўшы  
свайго першынца — немаўляці?  
І мелодыя жалю  
цішыню на магілах  
бацькоўскіх не збудзіць?  
Божа ж вас барані  
ад бяспамяцтва гэтага, людзі!  
Час няўмольна ляціць...  
Ўжо гатова траншэя-магіла...  
У здранцвенні нямым  
наваколле ад жаху застыла...  
І са стогнам глухім,  
як ад болю нясцерпнага, хаты  
У магілу-траншэю ляглі,  
як калісьці ад куляў варожых  
салдаты...  
Роў матораў зацix...  
Над прасторай журботная  
поўня...  
І пустэча ў душы...  
І нічым ўжо яе не  
запоўніць.

15.01.92 г.

*Брэст — Гомель*




5 чэрвеня — Усенародны дзень святой Еўфрасінні Полацкай

Дзіцячая школа духоўнага жывапісу, якой кіруе Алена Харэцкая, блізу года дзейнічае ў Жлобіне пры падтрымцы мясцовай царквы. Юныя жывапісцы наладжваюць ужо семнаццатую выставу сваіх твораў, якая будзе працаваць да свята Святой Тройцы.

*На здымку: твор Ірыны Казловай "Еўфрасіння Полацкая".*

**Фота Сяргея Халадзіліна, БелТА.**



Спектаклі сяброўства праходзяць у Гомелі. Ужо некалькі разоў рэжысёры абласных тэатраў Гомеля, Жытоміра і Бранска ставілі спектаклі ў сваіх суседзяў, а акцёры ігралі ў "зборным складзе". Сёлета гамяльчане змаглі ўбачыць некалькі такіх спектакляў у выкананні зборных калектываў.

*На здымку: акцёры і рэжысёры з Жытоміра, Бранска і Гомеля.*

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БелТА.**



Гэтай унікальнай пабудове, што размясцілася ў цэнтры Гомеля, ужо без малога 200 гадоў. Першапачаткова тут была крама ткацкіх вырабаў (1818 г.), затым будынак меў некалькі гаспадароў, адным з апошніх быў М.Румянцаў. Пры ім дамок быў абкладзены каменем і радаваў сваёй прыгажосцю не адно пакаленне гамяльчан. Але час няўмольны, і будынку неабходна "лячэнне", на якое зараз, на жаль, няма сродкаў. На тыя, што былі выдаткаваны раней Беларускім рэспубліканскім упраўленнем па рэстаўрацыі, работы пачаліся, але сёння будаўнікі БУ-45 аб'яднання "Гомельпрамбуд" толькі разводзяць рукамі, маўляў, грошай для заканчэння будаўніцтва няма. Рэстаўрацыйныя работы прыпынены на няпэўны тэрмін.

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БелТА.**

ФЭСТ

# АПТЫМІЗМ? ЯГО БАГАТА Ў ЧАЧЭРСКУ!

***Полька, бадай, ці не самы ўлюбёны танец беларусаў. Гучаць яе пералівы на вяселлях, падчас народных і дзяржаўных святаў, дый і проста на вуліцы ў добрае надвор'е. Бывае неспадзёўкі пачуеш яе сярод раскаванага рок-н-рола на тусоўках моладзі альбо сярод поп-хітоў на эстрадзе... "між Літвой і Украінай —полька беларуская".***

## "МЫ ХОЧАМ, КАБ І ДЗЕЦІ ПАЙШЛІ Ў СКОКІ"

На чатыры травеньскія дні (з 23 па 27) сталіцай полькі стаў невялікі горад Чачэрск на поўдні Беларусі. Аб старажытнасці і глыбокіх традыцыях яго гаворыць дата, напісаная золатам на стэле пры ўездзе — 1159 год. Але яшчэ здалёк можна ўбачыць ратушу, пабудаваную ў гатычным стылі. Увогуле, калі аўтобус пакаціў па чыстых вулачках сучаснага раённага цэнтра, міжволі падумалася, што патрапілі мы зусім не на паўднёвы ўсход Беларусі, а кудысьці на захад, пад Горадню.

А подых фестывалю адчуваўся не толькі ў лагодным ветры, што надзімаў ветразі святочных транспарантаў, не толькі ва ўсмешках і ветлівасці людзей, але і ў народных строях, што там-сям вясёлымі колерамі ўспыхвалі сярод звычайнага адзення жыхароў, і ў звонкай беларускай мове, на якой нам, журналістам, тлумачылі, як знайсці гатэль.

І ўсё ж такі мы пашкадавалі, пашкадавалі, што прыехалі толькі на трэці дзень фестывалю і не змаглі пабачыць і паўдзельнічаць у старажытным абрадзе пахавання стралы, калі водзяцца карагоды, спяваюцца вясновыя песні, хлопцы і дзяўчаты валачобнічаюць, а гаспадыні частуюць. Але тых уражанняў, якія мы паспелі набыць падчас астатніх дзеяў, магло б хапіць і не на адзін фестываль.





Асабліва захаплялі выступленні дзіцячых калектываў. А як расквечваліся вочкі дзяўчат і хлапчукоў, калі з імпэтам і любоўю пераймалі сваіх бабулек і дзядулек, тым самым даючы новае жыццё фальклорнай традыцыі!

— Нам бы хацелася, каб на гэтым фестывалі ў скокі пайшлі дзеці,— кажа Іван Несцяровіч — намеснік старшыні райвыканкама і старшыня аргкамітэта фестывалю.

І гэтае жаданне здзейснілася, бо на розных этапах свята танчылі амаль усе школы і дзіцячыя садкі Чачэрскага раёна. Напрыклад, дзіцячы садок № 4 падрыхтаваў цэлую зладжаную праграму.

Унікальная традыцыя аднавілася ў вёсцы Меркулавічы. Дырэктарка школы Любоў Галубіцкая сама грае на гармоніку, успрымае і перадае ў вуснай форме песні сваім вучням. І самае дзіўнае, што ўся школа разам з фальклорным гуртом танцавала складаную шматкаленную кадрылю.

Дырэктар Бяляеўскай школы Святлана Марозава сама напісала і музыку і словы "Чачэрскай полькі", якую падхапілі ўсе ўдзельнікі фестывалю.

Цікавая праграма была у СШ № 2 г. Чачэрска, дзе таксама дырэктарка Ганна Арлова паспрыяла, каб працэс пераемнасці традыцый ішоў больш актыўна. Яе вучні вадзілі старадаўнія карагоды "Зайка", "Проса", "Картузэ", "Мальвіна".

А сярод дарослых калектываў больш праваблівалі ўвагу аўтэнтычныя гурты: вёскі Бабічы, Гацкое, Валасовічы, Палессе, Асінаўка, Матневічы. І, безумоўна, "правіла баль" полька. Гуртамі Чачэршчыны і Беларусі былі выкананы разнастайныя віды гэтага танца, вось толькі некалькі назваў: "Мост" (в.Скібічы, Драгічынскі раён), "Верацяно", "Базар", "Бабіцкая" (Чачэрскія гурты), "Шчабятуха", "Дробная" (г.п. Капаткевічы, Петрыкаўскі раён), "Разява" (вёскі Сінічкі і Івольск, Буда-Кашалёўскі раён). Захапленне і ўзрушэнне, з якім выступалі калектывы на сцэне, перадаваліся астатнім удзельнікам, публіцы. Так у апошні дзень усе калектывы, ды што калектывы, уся плошча — танчылі Бабіцкую польку. І нават старшыня Чачэрскага райвыканкама не вытрымаў, сам узяў у рукі бубен і ўвесь заключны этап фестывалю акампаніраваў выступоўцам.

Шчыра кажучы, у жыцці людзей заўважаецца прыгнёт матэрыяльных праблемаў, але душэўна яны раскаваныя, бо танцуюць і спяваюць. І што больш за ўсё здзівіла не нас, а... японцаў, якія здымаюць фільм пра чарнобыльскія раёны Беларусі,— вакол радыяцыя, адсутнасць дэмакратыі і поўнай свабоды слова, але ў людзей багата аптымізму, прагі да жыцця, якой яны гатовы падзяліцца з кожным, хто б ты ні быў, адкуль ні прыехаў.

А прыехала на фестываль больш за 70 калектываў з Гомельскай, Мінскай, Брэсцкай, Віцебскай, Магілёўскай абласцей, а таксама госці з горада Кулікоўка Чарнігаўскай вобласці.

## МЫТНЯ НА БЕРАЗЕ СОЖА

Кожны калектыў павінен быў даць канцэрт у якім-небудзь населеным пункце Чачэрскага раёна. І дэлегацыі газеты "Культура" выпала паехаць разам з украінскімі гасцямі ў вёску Залессе.

Павольны Сож, цішыня і спакой велічных берагоў... і вузенкі шлагбаум на шашы — атрыбут мытні — напамін пра цывілізацыю і дзяржаўнасць. Аднак самае цывілізаванае месца Залесся, у індустрыяльным сэнсе, — гэта клуб. Сучасны, зручны будынак, безумоўна, прыкметы друзласці заўважаюцца, але гэта пакуль дробязь. Тут знаходзіцца штаб фальклорнага калектыву вёскі, які прымаў сваіх украінскіх калег — "зборную каманду" з двух калектываў Кулікоўкі: танцавальнага "Лянок" пад кіраўніцтвам Віктара Ліпаватага і песеннага "Весялінка" на чале з Нінай Аўроцкай.

У восем гадзін зала клуба была запоўнена да краёў, прыйшлі і старыя і маладыя, але пасля першых куплетаў выступоўцаў, узроставыя адрозненні зніклі, бо захапленне, з якім артысты спявалі ўкраінскія і беларускія песні, танцавалі ўкраінскія, беларускія, малдаўскія танцы, перадалося зале і перанесла пажылых людзей у іх маладосць.

Больш за ўсё публіцы спадабаўся жартоўны малдаўскі танец "Выбар жаніха". Усе гэтак перажывалі за зухаватага малойцу ў чырвоных шараварах, што калі напрыканцы танца прыгажуня ўсё ж такі абрала яго, увесь клуб захліснуў шквал авацый.

Цікавай адметнасцю канцэрта было тое, што паміж танцавальнымі і песеннымі нумарамі ўкраінскія артысты чыталі вершы, якія для беларуса, носьбіта сваёй роднай мовы, — зусім не цяжка зразумець.

Пасля канцэрта была неафіцыйная частка, дзе госці прадэманстравалі не горшае за нас веданне беларускіх песень.

А ноччу, пад ціхамірным мігценнем зорак Млечнага шляху артысты, гаспадары, гледачы адной кампаніяй гулялі па вулках Залесся, па беразе Сожа. А завадатарам быў вясёлы парубак Андрэй-гарманіст. Яму так спадабалася ў нас, што ён захацеў застацца пагасціваць падолей. Дый і нам, журналістам, шкада было расставацца з прыгожымі мясцінамі Залесся, з добрымі людзьмі ды з гасцямі і іх украінскай мовай.



Калі мы ехалі назад у Чачэрск, увесь аўтобус спяваў новую для гасцей песню "Ад панядзелка да панядзелка...", што сталася адзінай "кантрабандай", правезенай імі праз мытню на беразе Сожа.

## АРГАНІЗАЦЫЯ — РЭЧ АДКАЗНАЯ

Фестываль для невялікага горада Чачэрска стаў грандыёзнай падзеяй, і каб раскруціць махавік такога свята, трэба прыкласці немалыя намаганні.

Вось мы і паразмаўлялі на гэтую тэму з загадчыкам аддзела культуры Чачэрскага райвыканкама Іванам Ткачуком.

**— Хто дапамагаў Вам у арганізацыі свята?**

— У асноўным мы рабілі гэты фестываль сіламі нашага раёна. Міністэрства культуры вылучыла грашовыя сродкі, але яны далёка не дастатковыя, каб маглі падняць такое свята. Ды і не варта вінаваціць Міністэрства, бо яно ў пэўнай ступені знаходзіцца ў фінансавых рамках і не магло падтрымаць нас цалкам, як мы хацелі. А так — дзякуй калгасу "Камунар", саўгасам "Бацвінава", "Нясінкавічы". Там і простыя людзі, і кіраўнікі разумеюць, паважаюць народную культуру і змагаюцца, каб падняць тыя яе спрадвечныя пласты, якія ў нас, на жаль, залёжваюцца, каб вывесці яе на ўзровень вышэй.

Дапамагалі самыя розныя прадпрыемствы нашага раёна: ПМК 74, ПМК 118... і нават дзіцячыя садкі. Безумоўна, не столькі ў грашовым плане, колькі ў матэрыяльным — штосьці дзесьці наладзіць, падправіць сцэну і пляцоўку, знайсці прызы, вырашыць транспартныя праблемы... Вялікі дзякуй дырэктару школы Бяляеўка! Гэта той чалавек, які ўсё жыццё адстойваў і будзе адстойваць культуру нашых дзядоў і бацькоў.

Вялікая праца — уся рэжысёрска-пастановачная частка — лягла на плечы Міколы Козенкі. І ўсё, што робяць школы, дзіцячыя садкі, гэта таксама яго ініцыятыва..

**— Мы заўважылі, што амаль у кожный вёсцы ёсць свой фальклорны калектыў, і нават не адзін. Ёсць бабулькі, але ёсць і дзеці, чаго амаль ужо няма ў іншых раёнах. Можа, гэта адмысловасць Чачэршчыны?**

— Так. Багатыя фальклорныя традыцыі ў большасці вёсак нашага раёна, скажам, Меркулавічы маюць і свой самадзейны калектыў, і народны калектыў, і дзіцячы. Праўда, не ва ўсіх вёсках можна назіраць такое, але і там мы пастараемся аднавіць свае традыцыі. Гадоў трыццаць-дваццаць таму, кожная вёска мела свой калектыў. Менавіта самадзейны, менавіта фальклорны. Таму канцэпцыя свята распрацоўвалася, зыходзячы з таго, што мы маем, што нам зрабіць па сілах.

**— Але былі выселены некаторыя вёскі?**

— Так, у нашым раёне былі выселены 30 вёсак. Мы згубілі шмат чаго: музейныя каштоўнасці і самае галоўнае — людзей, тых бабулек, тых дзядулек, хто ўсё гэта ведаў. Вось наш фестываль дапамагае захоўваць, перадаваць у спадчыну і зацікаўліваць маладых людзей і малых дзетак. Бо існуе боязь, што можа стацца, як, напрыклад, у Германіі ці Францыі, там аўтэнтычнае мастацтва вымірае. І зараз гэта вярнуць вельмі цяжка. А ў нас, нягледзячы на Чарнобыльскую трагедыю, яно не загінула. Трэба толькі папрацаваць, падняць і перадаць новаму пакаленню.

**— Якія адрозненні цяперашняга фестывалю ад папярэдніх?**

— Маштабы болей, задзейнічана болей калектываў, і самае істотнае — болей менавіта дзіцячых. Мінулыя фестывалі былі багацей, былі і спонсары, і каштоўныя падарункі, а тут усё амаль сваімі сіламі, але якасны ўзровень мы не толькі здолелі захаваць, але і падвысілі.

**— Дзякуй, поспехаў вам, і каб жыла чачэрская полька!**

* * *

Свята закончана, кожны калектыў атрымаў прызы. Спецыяльныя прызы газеты "Культура" былі ўручаны ансамблю народнага танца "Лянок" і народнай песні "Весялінка" горада Кулікоўка Чарнігаўскай вобласці, дыпломамі за захаванне традыцыйнай культуры адзначаны: фальклорны гурт вёскі Залессе, дзіцячыя калектывы вёсак Бабічы, Меркулавічы, Гацкое, Валасовічы і школы мастацтва г. Чачэрска.

Аднак прызы — з'ява чыста намінатыўная, так бы мовіць, для гісторыі. Самы вялікі прыз — гэта тыя часы, якія мы, гледачы, і кожны ўдзельнік правялі тут на Чачэршчыне на фестывалі "Беларуская полька". Гэта тое духоўнае багацце спадчыны народа, з якім мы судакрануліся і ачысціліся ад злосці, крыўд і стрэсаў будзённага жыцця.

**Сяргей МІНСКЕВІЧ**
**Фота Андрэя ВАШКЕВІЧА**

## КАМЕРТОН

# ДАЙЦЕ ДЗІЦЯЦІ СВАБОДУ Ў ТВОРЧАСЦІ!



*Аўтар Цімур Шчарбакоў (у цэнтры, гальштук-"матылёк"), балет "Лясная сюіта"*

***5 — 8 траўня ў старажытнай Гародні, у двух канцэртных залах — у тэатры графа А.Тызенгаўза ды ў Новым замку (дойлід М.Пёпельман, XVIII ст.) праходзіў 4-ы Міжнародны конкурс юных кампазітараў "НАДЗЕЯ-96" імя Максіма Багдановіча. Юны Максім жыў у нашым цудоўным горадзе, і гродзенцы памятаюць яго...***

***Чатыры сонечныя травеньскія дні мы цешыліся атмасферай свята і радасці ад сутыкнення з цудам-талентам нашых дзяцей.***

***І ваш карэспандэнт паспрабаваў данесці гэта ў інтэрв'ю з удзельнікамі конкурсу "НАДЗЕЯ..."***

Віталь Радзіёнаў, заснавальнік конкурсу "НАДЗЕЯ", кіраўнік праекта конкурсу ад Фонду Сораса — Беларусь, кіраўнік асацыяцыі гродзенскіх кампазітараў, член журы конкурсу "НАДЗЕЯ-96":

— Першы конкурс адбыўся ў 1992 годзе, затым у 1993 ды 1994 гадах. А сёння ўжо праходзіць "НАДЗЕЯ-96".

**— Я прысутнічаў на папярэдніх конкурсах і бачу, як з кожным годам конкурс "НАДЗЕЯ" набывае ўсё большы размах...**

— У гэтым годзе да нас прыехалі 65 канкурсантаў з Украіны, Расіі. Ёсць і нашы землякі — беларусы. Разам з акампаніятарамі, ілюстратарамі ды суправаджаючымі сабралася каля 200 чалавек. Украінцы прадстаўлены гарадамі Кіеў, Сімферопаль, Львоў, Харкаў, Адэса і Цярнопаль. Расійцы — з Чалябінска, Екацярынбурга, Тальяці. Асабліва шмат масквічоў: 1-я музычная школа імя С.Пракоф'ева, музычная адзінаццацігодка, маскоўская кансерваторыя і аспірантура.

**— Памятаю, у 1994 годзе быў хлопчык-піяніст з Яраслаўля, горада, дзе калісьці жыў Максім Багдановіч...**

— Так, і Яраслаўль таксама — 13-гадовы Антон Кузняцоў, яго балет "Актрыса" толькі што прагучаў. Антон заняў на гэты раз 3-е месца.

**— Растлумачце, калі ласка, які ўзроставы склад удзельнікаў і, адпаведна, якая "структура" вашага конкурсу?**

— У нас прадстаўлены дзве дзіцячыя групы (да 12 гадоў і да 15 гадоў), юначая група (да 18 гадоў) і фестывальная група (да 25 гадоў).

**— Ваш конкурс прысвечаны памяці нашага земляка-гарадзенца паэта Максіма Багдановіча. Якія ўмовы конкурсу?**

— У гэтым годзе мы знялі абавязковы раманс на вершы Багдановіча, але, у асноўным, конкурс застаўся прысвечаным Багдановічу, і шмат хто з удзельнікаў напісаў рамансы на яго вершы. Будзе ўручаны і адмысловы прыз імя М.Багдановіча.

**— На жаль, я не быў на першым, дзіцячым, дні конкурсных выступаў, але сёння ў фестывальнай групе ўдзельнікаў тое, што я паслухаў, — гэта інструментальная музыка і, трэба сказаць, вельмі авангарднага плана. Настолькі авангарднага, што цяжка было зразумець: ці ёсць там душа, ці толькі адна думка засталася... заблытаная... Гэта вельмі цяжка ўспрыняць, і слухачоў было мала ў Новым замку. І наогул, мне здаецца, менавіта вакальная музыка больш садзейнічае развіццю меладызму, моцартавых пачаткаў у музыцы, усяго таго, чаго так не хапае шмат каму, у тым ліку і беларускім прафесійным кампазітарам...**

— Так. Але вакальная музыка ў нас была дастаткова шырока прадстаўлена. Гучалі рамансы, песні. Шмат харавых калектываў, напрыклад, з Маладзечна і Мінска. А з Ліды прыехаў аркестр рускіх народных інструментаў. Паказвалі і некалькі балетаў...

* * *

***Таццяна Чудава, прафесар Маскоўскай кансерваторыі, член журы конкурсу "НАДЗЕЯ-96":***

**— Таццяна Аляксееўна! Вы на конкурсе "НАДЗЕЯ" ўжо ў трэці раз. З кожным годам конкурс пашыраецца, ці ёсць прафесійны рост удзельнікаў?**

— Безумоўна!

**— А ці ёсць прыток новых удзельнікаў, абнаўленне складу?**

— Так, канешне. Правільней кажучы, тыя, хто ўжо сталі лаўрэатамі, яны растуць і развіваюцца надалей. А на іх месца прыходзяць новыя. Але каля 15 працэнтаў старых удзельнікаў з году ў год застаецца. Яны пераходзяць з адной узроставай групы ў наступную...

**— 9-га траўня — дзень нараджэння Вашага земляка — паэта і салдата Булата Акуджавы. Перадайце яму, калі ласка, віншаванні з Гародні: мы любім і памятаем яго...**

— Перадам, абавязкова!

* * *

**— Назавіце сябе, калі ласка...**

— Я Валерыя Янкоўская, жыву ў Ваўкавыску Гродзенскай вобласці.

**— І колькі ж Вам год?**

— Чатырнаццаць.

**— У каго займаецеся музыкай?**

— Я ўжо ў сёмым класе, мой настаўнік фартэпіяна — Сіцька Яніна Зянонаўна.

**— Памятаю, Вы ўжо і раней удзельнічалі ў конкурсе "НАДЗЕЯ"?**

— Так, зараз ужо ў чацвёрты раз.

**— На папярэднім конкурсе Вы паказвалі оперу. Як яна называлася?**

— "Белая вішня".

**— Наогул, як Вы прыйшлі да ідэі напісаць свой балет "Дзікія лебедзі"? Гэта абавязковая праграма конкурсу, балет? Напэўна, вельмі цяжка для падлетка ствараць такія буйныя творы? Напрыклад, 12-гадовая Дзінара Мазітава хвілін сорак выконвала музыку свайго балета на раялі, чым стаміла нават дарослых слухачоў, а не толькі дзяцей... Чаму ж Вы напісалі менавіта балет?**

— Я яшчэ да оперы хацела напісаць балет. Мне цікавая не толькі вакальная музыка, але і інструментальная таксама...

**— Дзе Вы знайшлі такое выдатнае лібрэта?**

— Тэму балета "Дзікія лебедзі" я адабрала сама: чытала шмат казак, аповесцяў, апавяданняў.

**— А хто аўтар лібрэта?**

— Віталь Канстанцінавіч Радзіёнаў.

**— Выдатны тэкст. Хто ж выконваў балет?**

— Глушок Наталля Віталеўна.

**— Яна акампаніравала на раялі. А балетная трупа адкуль?**

— З Мінскага харэаграфічнага каледжа.

**— Добра! Дзякуй, Вам, Валерыя.**

***Віктар Аляксандравіч Губіч, дырэктар конкурсу "НАДЗЕЯ-96", намеснік загадчыка аддзела культуры Гродзенскага аблвыканкама.***

**— Вы і раней удзельнічалі ў арганізацыі конкурсу "НАДЗЕЯ"?**

— Так.

**— Кожны з 65 удзельнікаў конкурсу ды іх памочнікаў — акампаніятараў і ілюстратараў — абавязкова штосьці павязе з сабой дадому — у Расею, на Украіну, у іншыя куткі Беларусі на памяць пра Гродзенскі конкурс.**

— Атрымліваецца, што Віталь Радзіёнаў, які распачаў ідэю конкурсу, задоўга да розных палітычных рашэнняў нашых улад, нефармальна пачаў аб'ядноўваць усе славянскія народы?!

— Так атрымліваецца. Гэта вельмі добра, але хочацца, каб геаграфія конкурсу і надалей пашыралася. Хацелася б, каб і браты-палякі прынялі ўдзел у нашым конкурсе-97, і прыбалты. Спадзяемся, што ў будучым так і будзе. Надалей, напэўна, конкурс "НАДЗЕЯ" будзе зведзены толькі да дзіцячага конкурсу кампазітараў — менавіта дзеці і з'яўляюцца нашай надзеяй...

**— Віктар Аляксандравіч, адкажыце, калі ласка. Эканамічнае становішча краіны яўна не спрыяе правядзенню такіх буйных культурных мерапрыемстваў. Як Вы выходзілі са складанага становішча?**

— Дапамагло Міністэрства культуры Беларусі, Беларускі Фонд Сораса выдзяліў 8 тысяч долараў. Падтрымалі гродзенскія арганізацыі — універмаг, Дзіцячы Фонд, гарвыканкам, упраўленне культуры. За 1-е месца Міністэрства культуры выдзяліла 1 млн. рублёў. Гран-пры — 200 долараў атрымае дзяўчынка з Львова Ганна Пасаман і даванаццацігадовы Цімур Шчарбакоў з Мінска.

**— Дзякуй Вам.**

* * *

**— Назавіцеся, калі ласка...**

— Ганна Пасаман з Львова. Ці можна, я буду размаўляць па-ўкраінску?

**— Я рады гэтаму (далей словы Ганны даюцца ў перакладзе на беларускую мову). Ганна, ці ўдзельнічалі Вы раней у гэтым конкурсе?**

— Не, упершыню.

**— І як Вы сябе адчуваеце? Вельмі хвалюецеся?**

— Канечне. Але я чалавек веруючы і спадзяюся на Бога...

**— А якую прэмію Вы заваявалі — Вы ўжо ведаеце? (інтэрв'ю адбылося да ўручэння дыпломаў).**

— Так! Мне ўжо сказалі! (Яна радасна смяецца.)

**— Мне таксама ўжо сказалі! Таму я віншую Вас з Гран-пры Міжнароднага конкурсу "НАДЗЕЯ-96". А на наступны год ці не збіраецеся Вы ўдзельнічаць у Гродзенскім конкурсе?**

— Яшчэ не ведаю, магчыма...

**— Тады я б вельмі прасіў Вас: напішыце што-небудзь меладычнае... на вершы Максіма Багдановіча, у гонар якога праводзіцца конкурс!**

— Але ў мяне няма яго вершаў...

**— Папрасіце ў Віталя Канстанцінавіча! Ён жа заснавальнік гэтага конкурсу. Напішыце, напішыце, калі ласка, музыку на вершы Багдановіча — гэта і будзе Ваш уклад у беларускую культуру.**

— Абавязкова!

**— Вялікі дзякуй.**

* * *

**— Ты Цімур Шчарбакоў?**

— Так.

**— Цімур, толькі што скончыўся твой выступ на заключным канцэрце лаўрэатаў. Мне вельмі спадабалася, як ты іграў на раялі свае варыяцыі. Колькі табе гадоў?**

— Дванаццаць.

**— Ну, малайчына! А займаешся ты ў Карэтнікава...**

— ...Валерыя Іванавіча, кампазіцыяй.

**— А дзе ты навучаешся музыцы?**

— У музычным ліцэі пры Беларускай акадэміі музыкі, Мінск.

**— І колькі гадоў ты ўжо займаешся ў Валерыя Іванавіча?**

— Чатыры гады...

**— І што ты за гэты час стварыў?**

— Ну, балет я не адразу напісаў. У мяне спачатку была як бы проста "Лясная сюіта". Ды варыяцыі напісаў на тэму беларускай народнай песні, і там яшчэ некалькі маленькіх п'ес...

**— Так, добрыя варыяцыі...**

— Ну, а потым з Вольгай Цімафееўнай пагаварыў — гэта наш балетмайстар. І вось яна згадзілася, надумала тое-сёе... І добры балет атрымаўся.

**— Слухай, Цімур. Скажы мне шчыра. Вось мне зразумела: твая ідэя балета, ты сам ноткі пачаў пісаць розныя — а вось Валерый Іванавіч табе шмат дапамагаў? І ў чым менавіта?**

— Вельмі шмат! Мне здаецца, што ён самы лепшы педагог у свеце, і наогул...

**— А колькі вучняў у Валерыя Іванавіча ў Мінску?**

— Вельмі многа!

**— Чалавек з дзесяць?**

— Можа, нават і болей.

**— Чаго я табе хачу пажадаць, Цімур! Ты вакальнай музыкі больш пішы, таму што...**

— Я напісаў ужо тры рамансы...

**— Гэта добра. Для хору штонебудзь пісаў?**

— Пісаў.

**— Шчэ пішы. Гэта вельмі дысцыплінуе... Харавая музыка патрабуе меладызму яркага, гармоніі сакавітай і вельмі эканомнага, тонкага выкарыстання кампазітарскіх сродкаў, разумееш? Але ты абавязкова прайдзі праз гэтую школу, ты пакутуй, але пішы. Пяць разоў цябе адмовяцца выконваць, а вось сёмы хор абавязкова выканаюць! Харавая музыка навучыць цябе лаканізму... Вывучы Моцарта, як ён пісаў свае творы. І ты адчуеш хараство яго мелодыі. Ён навучыць цябе мелодыі пісаць. Я не стаў бы ўсё гэта табе расказваць, але вельмі мне спадабалася твая музыка. Хачу, каб у гэтай музыцы было больш твайго, а менш — педагога. Ведаеш, што самае галоўнае для кампазітара? Гэта стварыць сваю інтанацыю ў музыцы...**

— Свой стыль?

**— Нават не стыль — свае адчуванні, якія адлюстраваны ў музыцы. І пой яе, мелодыю сваю. Вось адкуль усё ідзе: ад душы, ад сэрца, ад голасу свайго... Дай я цябе пацалую, мілы мой.**

* * *

***Інтэрв'ю з заслужаным дзеячам мастацтваў Беларусі, дацэнтам Акадэміі музыкі сп. В.Войцікам.***

**— Віктар Антонавіч! Гэта ўжо чацвёрты конкурс "НАДЗЕЯ", у журы якога Вы працуеце?**

— Так. Быў і членам журы, і старшынёй.

**— Няўпэўненыя крокі конкурсу ў першыя гады — і вось сапраўды ўсяленскі размах...**

— Я і сам здзіўляюся, размах незвычайны. І справа нават не ў арганізацыйных момантах. Мяне здзіўляе, адкуль бярэцца столькі таленавітых дзяцей? У старэйшай узроставай групе дзевяць удзельнікаў смела можна аднесці да ліку прафесійных музыкантаў. Але ёсць і праблемы, асабліва ў старэйшых. Умоўна гэта можна назваць "праблемай элітарнага мастацтва" — жаданне аўтара ўсю сваю музыку быццам бы глыбокадумна раскласці "да костачак".

**— Гэта ж ужо было: "Звуки умертвив, музыку я разъял, как труп. Поверил... алгеброй гармонию..." Аляксандр Сяргеевіч Пушкін, "Моцарт і Сальеры".**

— У ёй няма душы: уся музыка шмат у каго ідзе зараз з-пад пальцаў. І вось тут закладзена самае непрыемнае! Вельмі важна, калі дзіця ў сваім развіцці застаецца дзіцём. Напрыклад, яму яшчэ 13 гадоў, і ён адчувае і перажывае на 13 гадоў...

**— І піша на 13 гадоў, без натасквання...**

— А ў 16 гадоў хай не робяць з яго "дзядулю" яго ж уласныя педагогі. Мы ж у журы ўсё бачым, усё разумеем. Што ж мы яму, такому "натасканаму", можам сказаць? Ці трэба казаць яго педагогам?!

**— На жаль, у нас на Беларусі вельмі мала кампазітараў сусветнага ўзроўню. Таленавіты наш дырыжор Ігар Мацюхоў, які мае вялікі вопыт замежных гастроляў, лічыць, што справа тут у "якасці музыкі", якую нараджае кампазітар. І галоўная задача педагога — не сапсаваць вучня, неператварыць яго ва ўласны цень, а даць магчымасць раскрыцца яго здольнасцям. Атрымліваецца, што педагог павінен быць і філосафам.**

— Канечне.

**— Усё паспее дзіця. Жыццё ж такое доўгае! Не перагружайце сваіх дзяцей...**

— У тым і справа. Жыццё не абмяжоўваецца толькі музычнымі "штудыямі" па адпрацоўцы тэхнічных прыёмаў.

**— Віктар Антонавіч, Вы з'яўляецеся членам журы конкурсу "НАДЗЕЯ", Вы ў 1995 годзе самі арганізавалі Міжнародны музычны фестываль у Мінску. І, акрамя таго, Вы ўзначальваеце музычную секцыю журы конкурсу "Зямля пад белымі крыламі" (Гісторыя і песні Беларусі), які знаходзіцца быццам бы пад патранатам газеты "Культура". Як Вам усё гэта ўдаецца сумяшчаць з асноўнай працай у акадэміі і ўласнай творчасцю? І, калі можна, некалькі слоў пра конкурс "Зямля пад белымі крыламі"...**

— Так. Час зараз вельмі напружаны, мітуслівы нейкі. Асабліва ў сталіцы. Але ж патрэбна наша дапамога і маладым — вось так і "круцімся" часта са шкодай для здароўя. Наконт жа конкурсу "Зямля пад белымі крыламі", майго ўдзелу ў яго журы, то я гэтым нават ганаруся. Я адчуваю нейкую чысціню і патрэбу ў гэтым конкурсе. У ім ёсць шчырасць.

## ПЕРАМОЖЦЫ КОНКУРСУ "НАДЗЕЯ-96"

***ГРАН-ПРЫ заваявалі:***

ГАННА ПАСАМАН (нар. 1979), Львоў, педагог Міраслаў Валынскі.

ЦІМУР ШЧАРБАКОЎ (нар. 1983), Мінск, Ліцэй БАМ, педагог Валерый Карэтнікаў.

***1-е месца:***

Кірыла Кедук (нар. 1987), ДМШ № 1, Гродна, педагог Баравік Т.А.

Казакова Наталля (нар. 1985), Масква, педагог Чудава Т.А.

Смаленская Вольга (нар. 1983), Тальяці, педагог Альшэўская Г.М.

Старадубцаў Яўген (нар. 1981), Масква, педагог Чудава Т.А.

Мазітава Дзінара (нар. 1984), ДМШ, г.Ліда, педагог Радзіёнаў В.К.

Баркоўская Аляксандра (нар. 1980), Ліцэй БАМ, Мінск, педагог Карэтнікаў В.І.

***2-е месца:***

Маркушэўскі Вадзім (нар. 1987), ДМШ, Слонім, педагог Вогнева О.В.

Кандрушын Аляксандр (нар. 1982), Масква, педагог Чудава Т.А.

Абросава Вольга (нар. 1981), Масква, педагог Чудава Т.А.

Ільніцкая Алена (нар. 1977), Цярнопаль, педагог Клымчук Б.К.

***3-е месца:***

Лысенка Мар'яна (нар. 1986), Масква, педагог Радзіёнава Т.Н.

Шаўчук Лідзія (нар. 1982), Львоў, педагог Валынскі М.

Кузняцоў Антон (нар. 1983), Яраслаўль, педагог Чудава Т.А.

Зільберман Якаў (нар. 1982), Екацярынбург, педагог Німенскі А.Н.

Разанава Маргарыта (нар. 1978), Львоў, педагог Валынскі М.

Даньшова Аляксандра (нар. 1977), Гродна, Музвучылішча, педагог Калешка М.В.

Вось і скончыўся конкурс... Адгрымелі апошнія апладысменты. Пераможцы вязуць дадому прызы. А хтосьці, магчыма, расчараваны ў сваіх чаканнях...

Конкурс "НАДЗЕЯ-96" як складаная з'ява вельмі шматгранны і шматбаковы. Уклад яго ў культуру брацкіх народаў цяжка пераацаніць. І вельмі не хапала ў Гародні нашых юных сяброў з Польшчы, Балгарыі, Літвы, Латвіі ды Эстоніі. Але спадзяемся, што ўсё гэта ў будучым...

Чаго ж хочацца пажадаць гэтаму конкурсу?

Больш дакладна вызначыцца з узростам удзельнікаў і з патрабаваннямі да абавязковай конкурснай праграмы. І ў гэтым, на наш погляд, неабходна апірышча на сваё роднае, нацыянальнае, песеннае. Бо конкурс прысвечаны памяці тонкага лірыка — Максіма Багдановіча, які не толькі наш зямляк, але і мае пэўныя дачыненні да рускіх і ўкраінцаў, бо жыў у Ноўгарадзе і Яраслаўлі, пахаваны на Украіне, у Крыме... Арганізатары конкурсу, не забывайцеся пра свае карані, калі ласка. І хацелася б, каб кожнаму ўдзельніку конкурсу быў падораны томік вершаў М.Багдановіча.

У 1996 г. у складаным становішчы аказалася і журы, члены якога прывезлі на конкурс сваіх вучняў. І калі ўлічыць, што грашовая прэмія педагога складала 50% ад прыза пераможцы, то гэта яўна не спрыяла аб'ектыўнасці ў ацэнцы канкурсантаў...

Вялікая колькасць буйных форм — балетаў 10 —12-гадовых удзельнікаў паказвае на нездаровую тэндэнцыю перараджэння конкурсу юных кампазітараў у конкурс майстроў-выканаўцаў сумесных з настаўнікам твораў з "ільвінай" часткай удзелу апошняга ў творчым працэсе. Да чаго гэта прывядзе? Да таго, што мы ўжо, на жаль, і маем у дастаткова шэрым асяроддзі беларускіх прафесійных кампазітараў. "Богу — Божае, а кесару — кесарава!"

Дайце, калі ласка, дзіцяці свабоду ў творчасці — і ў нас у хуткім часе з'явяцца свае Моцарты, Шапэны і Бетховены!..

**З квітнеючай травеньскай Гародні спецыяльна для "Культуры" — Сяргей КАНУННІКАЎ**

ЗАМЕСТ КРОПКІ

# ПРАГА ДА ПРАГНОЗАЎ

***Што будзе з намі заўтра? З сівой старажытнасці чалавек задае сабе гэтае пытанне і вынаходзіць розныя спосабы не толькі адказу на яго, але і магчымасці паўплываць на гэты адказ. Нават існуюць сцверджанні, што менавіта з цягі да разумення будучыні пачаліся такія важныя галіны дзейнасці чалавека як арганізацыя грамадства, мастацтва, рэлігія, навука. Некаторыя аспекты прагнозаў, з пункту гледжання развіцця культуры закранаюцца ў дадзеным артыкуле.***

## НАДВОР'Е

Калі на дварэ імжа і сонца за хмарамі нагадвае вока соннага бегемота, у большасці жыхароў планеты катастрафічна падае настрой і ўзнікае вастрэйшае жаданне даведацца дакладную гадзіну, хвіліну, секунду, калі гэта ўсё нарэшце скончыцца. Бяздомныя каты з самага дна сутарэнняў узіраюцца ў перакуленае дно нябёсаў, птушкі пакідаюць свае галіны, хаваюцца пад кустоўем, прычакаўшы светлага промня, а гома сапіенс нервова ўрываецца ў жытло і перш- наперш халерычна пераключае каналы свайго вялікага вынаходніцтва — скрыню тэлебачання, з надзеяй, што сіноптыкі паведаюць нешта добрае.

Але кепскае надвор'е перажыць яшчэ магчыма. Як вядома, тым, у каго душа спявае, здаецца, што "у природы нет плохой погоды, каждая погода благодать". А, напрыклад, у англічан, жыхароў Туманнага Альбіёна, увогуле размова пра надвор'е перайшла ў рытуал знаёмства.

## ЗДАРОЎЕ

Горай іншае — не вонкавае пахмурнае надвор'е, а ўнутранае — як прынята яго называць — стан здароўя, псіхічны і фізічны. Акрамя афіцыйных сіноптыкаў арганізма — медыкаў, якія ставяць дыягназ і даюць прагноз, на глебе мацнейшай патрэбы — ведаць будучыню свайго арганізма і душы, — квітнеюць іншыя сіноптыкі: варажбіткі, шаптухі, гадалкі, экстрасэнсы, прадказальнікі, вешчуны, празорцы і г.д., якія не толькі ўсю душу з жыламі выцягнуць, але разам з ёй яшчэ нешта больш звонкае... з кішэняў. Хаця, у некаторых з іх, мусіць, і ёсць мажлівасці нешта прадбачыць. Аднак ёсць факт, што бурнае размнажэнне ў грамадстве гэтакіх прагназістаў адбываецца, калі грамадства само доўга знаходзіцца ў пахмурным стане.

Сюды ж можна аднесці і астралагаў. Даўно сталі прывычнымі астралагічныя прагнозы на старонках газет, на тэлебачанні і радыё, астралагічныя лекцыі і школы. Без сумневу, што астралогія, як навука, альбо лепш сказаць, як навуковая традыцыя, мае старажытную гісторыю, і пэўныя назіранні яна за свае тысячагоддзі назапасіла. Але, памятаю, калісьці я правёў нескладаны эксперымент. Для адной сваёй знаёмай аматаркі астралогіі купіў кніжачку-гараскоп і прачытаў, якая яна ёсць, што было і што яе чакае. Яна з захапленнем охала і ахала:"Так, усё сапраўды так. Усё сыходзіцца!" І якое было яе здзіўленне, калі высветлілася, што, я пераблытаўшы яе знак, прачытаў гараскоп Казярога, а не супрацьлежнага Рака, кім яна была.

Насамрэч, стылістычна кожны гараскоп пабудаваны такімі акруглымі фразамі, што ўсё канкрэтнае робіцца размытым і, з пэўнымі скідкамі, універсальна падыходзіць да кожнага чалавека.

І ўсё ж такі станоўчы імпульс аптымізму альбо засцярогі гараскоп даць можа. Толькі, як кажуць, "чытай не чытай астралагічны прагноз, але па ветры трымай свой нос".

## ГРАМАДСТВА

Але самае цяжкае — гэта дрэннае надвор'е ўнутры грамадства, бо пры зацяжным крызісе пытанне "што будзе са мной?" усё часцей замяняецца рытарычным: "што будзе з усімі намі?"

Як у старажытнасці ганца з чорнай, дрэннай весткай забівалі, а з белай, добрай адорвалі золатам, так і ў грамадстве з няважным станам, вылучаюцца і займаюць пасады не тыя дзеячы, хто праўдзіва, абапіраючыся на факты і логіку, прадказвае пагаршэнне альбо цяжкі шлях выйсця з крызісу, а тыя, хто з упэўненасцю ў голасе, быццам звязаныя з нябёсамі вестуны, абяцаюць лёгкае і хуткае спраўджанне ўсіх надзей да пэўнага азначанага тэрміну. А калі той тэрмін надыходзіць, прыдумваюць непрадбачаныя перашкоды ці шукаюць вінаватых, як той алхімік, у якога не выйшла золата толькі таму, што вучань прынёс шклянку не той формы.

У грамадствах, дзе ўнутраны клімат даволі нармальны, такіх дзеячаў называюць папулістамі, і яны маюць невялікія шанцы на ўздым і поспех. Аднак няўлік феномена цягі да станоўчага прагнозу — вялікая памылка разважлівых і шчырых сіноптыкаў грамадства. І каб ведаць усе негатыўныя і пазітыўныя тэндэнцыі, што ўзнікаюць у пэўны момант у пэўных слаёў насельніцтва, ствараюцца розныя статыстычныя службы, а вельмі важным фактарам іх правільнага прагназавання з'яўляецца дасягненне імі поўнай незалежнасці ад меркавання пэўных уплывовых асоб.

Таксама, на іншых узроўнях, існуюць рознага кшталту прагнозы азартных гульняў, прыбытку. У гэты шэраг можна паставіць спорт- і біз-неспрагнозы.

## МАСТАЦТВА

Аднак ёсць яшчэ адна галіна жыцця чалавека, якая, калі не заўсёды знаходзіцца ў крызісе, дык перманентна трапляе ў яго ці сама правакуе яго ўзнікненне. Гэта — мастацтва.

І сапраўды, каб мастак, пісьменнік, кампазітар быў цікавы, ён павінен мець прыкмету неардынарнасці. Таму ён вымушаны шукаць свае ўласныя выяўленчыя сродкі, якія мастацтва акумулюе і нясе з сабой, і калі гэтыя сродкі ў пэўным часавым прамежку перанасычваюць прастору творчасці, то яно, быццам рака, намывае сабе мялізну — перашкоду, іншымі словамі, трапляе ў крызіс. І вось тут узнікае неабходнасць тэарэтычнага і практычнага прагназавання выйсця самога мастацтва, а разам з ім і мадэлявання зрухаў у грамадстве.

Вясной гэтага года ў Віцебску адбылася цікавая імпрэза, якая мела назву "Арт-прагноз'-96". Менавіта яна, ледзь не першая ў Беларусі, пад эгідай мастацтва спалучыла ў сабе ўсе магчымыя віды прагнозу. Цалкам яна называлася "сумесная акцыя мастакоў, літаратараў, музыкантаў, харэографаў, кулінараў і фармаколагаў". Так, тут былі прадстаўлены творы, што дачыняюцца да ўсіх гэтых кірункаў жыццядзейнасці чалавека.

У раздзеле выяўленчага мастацтва наладжваліся выставы: графіка арганізатара і фундатара імпрэзы Алеся Пушкіна — ілюстрацыя да кнігі С.Адамовіча "Плавільшчыкі расы"; фотаграфіка Міхала Баразны, якая праходзіла адначасна і ў некалькіх гарадах Германіі — серыя "Верхні горад"; вялікія палотны Васіля Васільева, уладальніка І прэміі пленэру імя К.Малевіча 1994 года — натуралістычны абстракцыянізм — адбіткі рэчаў, дошак, камянёў.

У літаратуры падчас імпрэзы склаліся два накірункі: з аднаго боку, традыцыйная альбо памяркоўна авангардная — Віктар Слінко, Арыя Ульрыка Гатальская, Юры Гумянюк; з другога — больш ускрайнія, смялейшыя праявы пошукаў і сцвярджэння літаратуры — Людка Сільнова і яе "колерная паэзія", выступы руху Бум-Бам-Літ.

У музыцы: "Аркестр музыкі нетрадыцыйнага сінтэзу", хаця яго сінтэз нагадваў звычайную апрацоўку іспанскіх і лацінаамерыканскіх мелодый; новыя творы з "Народнага альбома" Касі Камоцкай, выступленні Лявона Вольскага ў акустычным варыянце і гратэскная бардаўская песня Сержа Мінскевіча.

У харэаграфіі была здзейснена арыгінальная спроба групы з аднаразовай назвай "Бум-балет" выявіць вонкавыя характарыстыкі літар у рухах.

У кулінарыі: Сева Гарачка выставіў піражныя і булачкі з надпісамі, якія складаліся ў вершах. Ідэя заключалася ў тым, што вершы можна не толькі прачытаць, але і пакаштаваць, альбо наадварот — штосьці адчуць на смак і падсілкавацца духоўна.

У фармакалогіі: праект Юрася Барысевіча і Валянціна Акудовіча "Літаратура для ўнутранага і вонкавага спажывання" — гэта гарчычнікі з надрукаванымі на іх крылатамі выразамі, шклянка з фізіялагічным растворам для ўнутрывенных ін'екцый, да якіх быў прыклеены лагатып "ЗНО" і іншыя медыцынскія рэчы.

Але па сутнасці акцыя мела больш шырокае прадстаўніцтва ў рэчышчы прагнозаў развіцця мастацтва. Бо тут выстаўляліся не толькі эксперыментальныя кніжкі, карціны, пігулькі і нават спрынцоўка з літаратурнымі творамі на іх, але і спартыўнае начынне: гіры, аздобленыя крылатымі фразамі, і баксёрскія пальчаткі, на адной з якіх было напісна "Так", на другой — "Не". Акрамя таго, культуролагам Валянцінам Акудовічам была здзейснена спроба бізнес-прагнозу: хопіць ці не хопіць сумы, што добраахвотна назбіраюць гледачы ў тазік Бум-Бам-Літа, каб выправіцца хоць аднаму літаратару ў Афрыку. Эксперымент, улічваючы эканамічны крызіс, прайшоў даволі ўдала, было назбірана 45550 рублёў, якіх магло б хапіць да Берасця. Сінтэз мастацтва з варажбіцтвам прадэманстравалі Алесь Аркуш, які суправаджаў свае разважанні наконт развіцця літаратуры магічным распрананнем, і Ілля Сін, што відовішчнымі перфоменсамі "Ілля Сін памёр" і "Ілля Сін жыве" нагадваў шаманскія заклінанні. У пэўным сэнсе як празорцы новай эры мастацтва выступалі Зміцер Вішнёў, Міхась Башура, Сяргей Патаранскі: акрамя чытання ўголас сваіх твораў, яны дэманстравалі незвычайныя ўзоры ўласнай кнігатворчасці — "друкапісы", што сваёй малой формай і невялікім сабекоштам маглі стацца літпрадукцыяй хуткага рэагавання.

Свой шлях сатырычнага пераасэнсавання, а тым самым папярэджання падобных працэсаў у будучым прапанаваў Сева Гарачка — ён прачытаў цыкл вершаў, прысвечаных правадыру пралетарыяту У.Леніну. На заканчэнне ўдзельнікі акцыі пакінулі для нашчадкаў свае адбіткі-аўтографы на гліняных таблічках, што само было знакам повязі з будучыняй.

Увогуле акцыя "Арт-прагноз'96" прывабіла вялікую колькасць журналістаў і гледачоў, што само па сабе сведчыць аб цікавасці грамадскасці да лёсу беларускага мастацтва.

* * *

"Няма пракокаў у сваёй Айчыне" — сцвярджае біблейская ісціна. Няма, калі іх не чуюць, калі культывуецца абыякавасць да іншых і да сябе, калі мастакоў пазбаўляюць галерэяў, як напрыклад, ініцыятара і арганізатара "Арт-прагнозу'96" Алеся Пушкіна, калі паэты не маюць магчымасці друкавацца з эканамічных ці іншых прычын, калі музыкі не адчуваюць пад сваімі нагамі сцэны... Тады яны проста непатрэбныя і нават небяспечныя для такой айчыны. І мусіць, усё наадварот — прарокі ёсць, а айчыны няма? Ці яна вельмі хворая?

І ўсё ж такі пакуль існуе мастацтва, сваё, адрознае ад іншых, пакуль яно шукае выйсця з крызісу і падбухторвае людзей да творчай дзейнасці, мы маем надзею, што хоць адзін з усіх магчымых станоўчых прагнозаў спраўдзіцца.

І сонца яснае выйдзе з-пад шэрай хмары.

**С.ПТАШКІН**

# МУЗЫКА ГУМОВАГА ЧАРОТА

***(трэмала з аркестравай ямы)***

Уявіце: рэчка, па берагах рэчкі шуміць чарот, нахіляецца пад ветрам. Толькі чарот не звычайны, а гумовы... Гэта і прыгожа, і індустрыяльна, і дысцыплінуе... І хвалі бягуць куды трэба.

Памыляецеся, што я, трымаючы ў руцэ маю гумовую прыладу, ні пра што не думаю. Ой, памыляецеся. Я думаю, і я атрымліваю эстэтычную асалоду накшталт дырыжора, які кіруе аркестрам. Там, дзесьці сярод другіх скрыпак, высунулася адна, вішчыць бы аса, дырыжор узмахнуў палачкай — усё, не вылазіць. А патрэбна яму паддаць шуму — дае знак літаўрам. Так і я, убачыў, што высунуўся хтосьці над усімі, заклікае немаведама да чаго, лёгкі паварот запясця — і зноў усё прыгожа, ладна. Ці хтосьці набычыўся, глядзіць злосна з-пад ілба і прэ куды не след. Тут ужо не да лёгкасці, тут і плячуку раззудзіцца трэба...

А то крычаць — правы, правы. Якія правы могуць быць унутры аркестра! Толькі па нотах! І толькі калі трэба, калі пакажуць — тады зрабіць фортэ ці піяна. А правы — у аднаго, у саліста! Ён вядзе партыю, а мы за ім, увесь аркестр за ім, інакш што гэта за сімфонія будзе, не музыка, а дэмакратыя! Мы ўсе грамадзяне-таварышы ад нараджэння музыканты вялікага аркестра дзяржавы. І кожны павінен узяць у рукі смык, трубу, кантрабас, тое што скажа саліст-кампазітар, і граць як належыць, не шкадуючы сіл і здароўя. І каб ніякай там імправізацыі. Цыц, музыкашкі!

Вось толькі народ пайшоў нараджацца малады, няўрымслівы, усё хоча граць сам па сабе, у сваіх гуртах, без нашага саліста, без нашых кампазітараў, без нашых дазволаў,— таму і даводзіцца павялічваць шэрагі дырыжораў і шыхтаваць іх вакол аркестра шчыльней і шчыльней, і шчыты і каскі выдаваць. А каб кіраваць было зручней, вакол перадавых дырыжораў трэба яшчэ кола больш спрактыкаваных рэгуліроўшчыкаў ставіць. З мікрафонамі-мегафонамі пажадана. Каб аж глуханямых праняло... Трапіў тут да нас адзін такі. Мы думалі, ён самы першы тэнар у іх, ну і ўкацілі яму па сёмую пятніцу за тое, што лаянкай мегафон перакрыкваў. Хто ж ведаў, што ён ні "бэ" ні "мэ" сказаць не можа... Сам вінаваты, не трэба пазяхаць, там дзе мы дырыжыруем.

Ну а тыя музыкашкі, хто і пры такой выразнай партытуры не будзе выконваць нашых узмахаў, — іх, хош не хош, неабходна ізаляваць. Там, у гуканепранікальным памяшканні, хай граюць усё, што захочацца, ніхто іх не пачуе, не ўбачыць, нават калі яны ва унісон і есці і піць адмовяцца.

Не кажыце, а жыццё, музыка — гэта яшчэ хтосьці з класікаў пісаў, — рака, якая бяжыць за далягляд.

А вакол ракі растуць чароты... У нас — гумовыя.

Як гэта прыгожа, індустрыяльна, дысцыплінуе... Гэта вам не Феліні!

**Серж МІНСКЕВІЧ**

КУЛЬТУРА

**ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА - АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА**
выдаецца з кастрычніка 1991 года

Заснавальнік -
**Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь**

Галоўны рэдактар — **Алег КАМІНСКІ**

Рэдакцыйная калегія:
**Валянцін АКУДОВІЧ, Арсен ВАНІЦКІ, Андрэй ВАШКЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара — адказны сакратар), Валерый ГЕДРОЙЦ, Уладзімір ГІЛЕП, Ніна ЗАГОРСКАЯ, Сяргей ЗАКОННІКАЎ, Вольга ІПАТАВА, Людміла КРУШЫНСКАЯ (першы намеснік галоўнага рэдактара), Анатоль КУДРАВЕЦ, Мікола КУПАВА, Валерый СКВАРЦОЎ, Алег ТРУСАЎ, Віктар ТУРАЎ, Васіль ШАРАНГОВІЧ**

Мастацкі рэдактар — **Наталля ОВАД**
Камп'ютэрная вёрстка — **Ірына ДЗІВІНА**
Карэктар — **Мая КЛІМКОВІЧ**

**Адрас рэдакцыі:**
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1,
Тэлефон: 76-94-66

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

Фармат А3. Індэкс 63875
Агульны наклад 3125
Замова
Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку".

**М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**
**Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**